© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

наша свабода
№44(271) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДУ

26 КРАСАВІКА 2002 году ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103
тэл. 2100-253, факс 2100-254
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

# МЗС супраць НТВ

Міністэрства замежных справаў Беларусі афіцыйна папярэдзіла карэспандэнта расійскай тэлекампаніі НТВ Паўла Селіна. Яму пагражаюць пазбаўленнем акрэдытацыі.

У заяве МЗС, распаўсюджанай учора, выказваецца «сур'ёзная заклапочанасць» у сувязі з рэпартажамі НТВ з Мінску 14, 19, 20 і 21 красавіка.

У гэтых матэрыялах расійскі журналіст распавядаў пра эміграцыю з Беларусі, пра апошнія падзеі у лагеры абаронцаў Курапатаў, калі ў выніку падпалу адзін чалавек ледзьве не згарэў зажыва, а таксама пра разгон дэманстрацыі «Так жыць нельга!» 19 красавіка.

Замежнапалітычнае ведамства называе гэтыя рэпартажы «тэндэнцыйнымі» і патрабуе абвяржэнняў і прабачэнняў «у сувязі з тэндэнцыйна пададзенай, бяздоказнай інфармацыяй», «не адпаведнай рэчаіснасці і абразлівай для Рэспублікі Беларусь».

24 красавіка П.Селіна выклікалі ў МЗС Беларусі, дзе яму вынеслі афіцыйнае папярэджанне і паабяцалі, што наступным крокам стане пазбаўленне акрэдытацыі, без якой замежнаму журналісту працаваць у Беларусі немагчыма. Па звестках, МЗСаўскія чыноўнікі патрабуюць ад карэспандэнта НТВ пацвердзіць або абвергнуць інфармацыю пра 20 000 чалавек, што з'ехалі з Беларусі, а таксама цытату з Вячаслава Сіўчыка пра тое, што быць апазіцыянерам у Беларусі – небяспечна для жыцця.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Міліцыю абкрадаюць

У ноч з 13 на 14 красавіка быў учынены крадзеж у кватэры начальніка ўпраўлення ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкаму Валерыя Гарадзенкі. У прэс-цэнтры УУС гэтую інфармацыю не пацвердзілі і не абвергклі. Аднак, згодна з неафіцыйнымі звесткамі, якія мае БелаПАН, В.Гарадзенка пакінуў сваю кватэру без догляду ўсяго на пару гадзін, не паставіўшы на сігналізацыю. Гэтага зладзеям хапіла, каб забрацца ў кватэру і скрасці мікрахвалевую печ, тэлевізар і іншую маёмасць.

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ**

# Автор нашего времени

**«У каждого сделанного или проваленного дела есть свой автор, которого люди должны знать в лицо».**

**Александр Лукашенко, Президент Республики Беларусь**

***Из выступления при представлении ежегодного Послания парламенту***



*Продолжение темы на стр.7*

# *Зварот Нацыянальнага арганізацыйнага камітэту «Чарнобыльскага Шляху-2002» да беларускага народу*

Чарнобыльская катастрофа закранула сваім жудасным крылом бадай ужо кожнага жыхара нашай краіны: радыяцыйная смерць забрала за гэтыя гады ўжо больш за 200 тысяч жыццяў, чвэрць тэрыторыі краіны забруджаная доўгатэрміновымі радыенуклідамі, на заражаных землях жыве 1,84 мільёна чалавек, з іх амаль 500 тысяч дзяцей і падлеткаў, на тэрыторыях, дзе ўзровень радыяцыі вагаецца паміж 15 і 40 кюры, пражывае 140 тысяч чалавек. Першасная інваліднасць жыхароў краіны павялічылася з 1986 году на 50 працэнтаў, а колькасць генетычных адхіленняў у нованароджаных – у 8 разоў, і ўсяго толькі 13–15 працэнтаў выпускнікоў школ могуць лічыцца здаровымі.

Але прэзідэнт і яго ўрад год за годам скарачаюць аб'ёмы фінансавых сродкаў на выкананне Дзяржаўнай праграмы па пераадоленні наступстваў катастрофы і сацыяльную абарону пацярпелых. Спынілі адсяленне з забруджаных тэрыторый і аб'явілі іх чыстымі, бясшкоднымі для пражывання.

**І таму мы патрабуем ад ураду:**

– сканцэнтраваць усе магчымыя сілы і рэсурсы на выкананні Праграмы пераадолення наступстваў чарнобыльскай катастрофы, найперш праграм лячэння ўсяго насельніцтва і рэабілітацыі забруджаных тэрыторый, а таксама адсялення людзей, якія жывуць на тэрыторыях з узроўнем забруджанасці 15 і больш кюры;

– у дастатковай меры забяспечыць інвалідаў Чарнобылю неабходнымі лекамі і лячэннем;

– спыніць вытворчасць прадуктаў харчавання на «брудных» тэрыторыях і адмовіцца ад тэхналогій, якія не гарантуюць атрымання чыстых прадуктаў харчавання; стварыць сетку радыяцыйнага кантролю прадуктаў харчавання, даступную для любога пакупніка;

– аднавіць работу усіх здраўніц, дамоў адпачынку і дзіцячых летнікаў у мэтах рэабілітацыі здароўя насельніцтва, якое пражывае на забруджаных тэрыторыях;

– адмяніць дэкрэт №8 і ўсе дыскрымінацыйныя захады па абмежаванні дабрачыннай гуманітарнай дапамогі з замежжа і сумесных з заходнімі арганізацыямі і фондамі праграм пераадолення наступстваў катастрофы;

– забяспечыць насельніцтва аб'ектыўнай інфармацыяй пра стан экалогіі на тэрыторыі Беларусі.

Мы ўсе сталі закладнікамі рэжыму. Мы не жадаем імі быць. Мы хочам жыць. У свабоднай дэмакратычнай краіне. Вольнымі і здаровымі. Нашае выратаванне ў нашых руках.

Таму ўсіх, каму неабыякавыя праблемы Чарнобылю, заклікаем узяць удзел у «Чарнобыльскім Шляху-2002», які пройдзе ў Мінску сёння, 26 красавіка. Пачатак Шляху – а 17.30 ад Акадэміі навук.

С 21 мая 2002 года

**Новый супер-проект НАШАЙ СВАБОДЫ 16-полосный выпуск «ПОЛИТИКА»:**

- сколько будет править Лукашенко
- кто есть кто в структурах власти и оппозиции
- кто ворует деньги в Беларуси
- теневые разборки в окружении Лукашенко
- торговля оружием: схемы и участники
- как купить себе политическое имя
- личная жизнь чиновников
- и многое другое...

В каждом номере много кулуарных новостей, настоящей аналитики, откровенных интервью, а также все о России, Украине

Если Вы хотите знать, что происходит на самом деле... Читайте выпуск НАША СВАБОДА – «ПОЛИТИКА» с **21 мая**

**ПО ВТОРНИКАМ** в киосках «Союзпечати» и ваших почтовых ящиках

Падпісны індэкс НАШАЙ СВАБОДЫ 63478

# Каспій не дзеліцца

*Прэзідэнты Расіі, Ірану, Казахстану, Азербайджану і Туркменістану не змаглі падзяліць Каспійскае мора. Падпісанне Ашхабадскай дэкларацыі пра яго прававы статус, дзеля чаго і сабраўся саміт Прыкаспійскай пяцёркі, сарвалі прэзідэнт Ірану Махамад Хатамі і туркменбашы Сапармурат Ніязаў. Апошні яшчэ ўчора казаў, што справа «запахла крывёю».*

Такіх вынікаў саміту не чакалі нават найбольшыя песімісты. Нягледзячы на тое, што ніякіх прарываў у вызначэнні статусу Каспію і не планавалася, выніковая Ашхабадская дэкларацыя павінна была зафіксаваць фармальную гатоўнасць краін-удзельніц абмяркоўваць і супольна вырашаць праблему. Перамовы сарваліся з-за нязгоднасці бакоў дасягнуць хоць бы мінімальнага кампрамісу.

«Дзяліць дно, мора супольнае», – заявіў Уладзімір Пуцін. А доля Ірану ў Каспійскім моры, калі дзяліць дно паводле сухапутных межаў, істотна скароціцца. Афіцыйны Тэгеран кантралюе ўсяго 13% берагавой лініі, але прэтэндуе на пятую частку Каспію.

Туркменістан не можа падзяліць з Азербайджанам спрэчныя радовішчы і прапануе прыцягнуць да вырашэння спрэчкі міжнародны суд і ААН. Азербайджан не хоча трацейскіх суддзяў і прапануе працягваць здабычу да вызначэння статусу. Іран адмаўляецца дзяліць толькі дно і хоча дзяліць разам з ім і водную тоўшчу. А Расія, якая ў прынцыпе знайшла паразуменне з Азербайджанам і Казахстанам, не можа вызначыцца з зонай прыбярэжных водаў і спрачаецца аб ёй з Туркменістанам.

**Gazeta.ru**

ВЕСТКІ



## Беражыце жыццё на працы

У календарах усіх арганізацый сістэмы ААН адзначаны Міжнародны дзень памяці рабочых, якія загінулі на вытворчасці і пацярпелі на працоўным месцы. Сёмы год запар з ініцыятывы глабальных прафсаюзаў гэты дзень адзначаецца 28 красавіка. У гэты дзень прафсаюзы ва ўсім свеце патрабуюць ад сваіх урадаў і працадаўцаў стварэць і падтрымліваць сістэму бяспекі працы.

У 2001 годзе ў Беларусі ў выніку няшчасных выпадкаў на вытворчасці загінулі 239 чалавек, 675 атрымалі траўмы з цяжкім зыходам. Сёлета на пасяўной у калгасах загінулі ўжо 6 чалавек.

## Маладзее парк Радзівілаў

У старажытным радзівілаўскім парку ў Нясвіжы закладзены гадавальнік для саджанцаў высакародных дрэваў. На плошчы ў 3 гектары першымі высаджаны 120 маладых клёнаў. У адпаведнасці з рэкамендацыямі навукоўцаў Батанічнага саду, пасадачны матэрыял будзе строга адсартаваны цягам адмысловага догляду. Амаладзяць гістарычныя алеі ля былой рэзідэнцыі знакамітых князёў толькі лепшыя экземпляры з гэтай прыроднай лабараторыі.

## Аперацыя «Чысты аўтамабіль»

Навіна, як сенсацыя: начальнік аддзелу экалагічнага нагляду ДАІ Мінгарвыканкаму Генадзь Жылец паведаміў пра аснашчэнне яго службы некалькімі прыборамі па кантролі ўзроўню дымнасці легкавых аўтамабіляў з дызельным рухавіком. Такім чынам, у традыцыйнай аперацыі «Чысты аўтамабіль» дадаецца новая катэгорыя патэнцыяльных штрафнікоў. ДАІшнік папярэдзіў, што гэты кантроль будзе асаблівя ўважлівым.

**Шаноўныя чытачы! У сувязі з чарадой надыходзячых святаў наступны нумар газеты НАША СВАБОДА выйдзе 17 траўня.**

НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага даляра на «чорным рынку» 1770**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Кадэты патрулююць у электрычках

Падлеткі ў чорнай уніформе з эмблемай транспартнай міліцыі пачалі чарговы сезон патрулявання на прыгарадных электрычках сталічнага напрамку. Гэта Мінскі аддзел унутраных справаў на транспарце адшукаў добраахвотнікаў для барацьбы з наўмысным разбіццём шкла ў вокнах цягнікоў.

Начальнік інспекцыі па справах непаўналетніх Мінскага аддзелу УС на транспарце Алег Гімельрэйх паведаміў, што ўсе памочнікі дарожнага дзяжурнага патруля – навучэнцы вячэрняй зменнай школы № 21 г.Мінску. Тут упершыню ў Беларусі сфармаваны кадэцка-юрыдычны агульнаадукацыйны клас. Каля адной трэці яго складу – «цяжкія» падлеткі. З гэтымі юнакамі праводзіцца эксперымент па перавыхаванні, які мае на мэце накіраваць іхны азарт на карысную справу, у тым ліку – на падрыхтоўку да службы ў міліцыі.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

# Прафсаюз настаўніцтва слабее

*Мінскі прафсаюз работнікаў адукацыі і навукі склікаў экстранны пленум, на якім выпрацоўвалася тактыка супрацьстаяння сталічнай вертыкалі.*

Па словах старшыні прафкаму Анатоля Паўлава, 14 красавіка намеснік старшыні Мінгарвыканкаму Міхаіл Пятрушын на адмысловай нарадзе паставіў перад чыноўнікамі ад адукацыі задачу стварыць «жоўты» прафсаюз работнікаў адукацыі ў Мінску. Галоўны аргумент на карысць стварэння «жоўтага» прафсаюзу несур'ёзны: цяперашні прафсаюз называецца «Мінскі прафсаюз работнікаў адукацыі і навукі». Сітуацыю вакол пажаўцення мінскага настаўніцтва тлумачыць старшыня прафкаму Анатоль Паўлаў:

– Улада працягвае наступ на прафсаюзы з мэтай разваліць галіновы прынцып іх пабудовы. Разбураецца галіновы прынцып – разбураюцца прафсаюзы ўвогуле. Адна з першых структураў, на якой выпрабоўваецца гэты метад, – Мінская гарадская арганізацыя прафсаюзу работнікаў адукацыі і навукі.

На мінулым тыдні ў Баранавічах ужо створаны жоўты прафсаюз. Але там проста здрадзіў старшыня Баранавіцкага гаркаму прафсаюзу. Дзейнічаюць чыста адміністрацыйнымі метадамі: выклікаюць дырэктараў школ, большасць з якіх працуюць па кантракце, і ставяць пытанне рубам: 80% сябраў прафкаму не напішуць заявы – будзеш звольнены. Пастаўлена задача 26 красавіка правесці ўстаноўчую канферэнцыю гарадскога прафсаюзу работнікаў адукацыі Мінску – гэта і будзе «жоўты» прафсаюз.

*– Нагадайце хроніку стварэння «жоўтага» прафсаюзу.*

– 14 красавіка намеснік старшыні Мінгарвыканкаму Міхаіл Пятрушын сабраў намеснікаў кіраўнікоў адміністрацыяў раёну і начальніка камітэту адукацыі гораду; у аўторак у старшыні камітэту па адукацыі Міхаіла Ціцянкова прайшло стварэнне ініцыятыўнай групы; 17, 18 красавіка начальнікі раённых аддзелаў адукацыі збіралі дырэктараў школ; 18, 19, 22 красавіка ў школах мусяць прайсці сходы; 24 красавіка – раённыя канферэнцыі, 26 красавіка – агульнагарадская канферэнцыя. Асноўны довад на карысць стварэння «жоўтага» прафсаюзу – цяперашні прафсаюз мае ў сваёй назве слова «навука»: прафсаюз работнікаў адукацыі і навукі. Нам не трэба навука – будзем займацца толькі адукацыяй. Працуючы ва універсітэце, мы заўсёды, наадварот, стараліся спалучаць навуковы працэс з педагагічным: студэнт павінен вучыцца на самых апошніх навуковых дасягненнях.

На жаль, знайшліся і ў нас здраднікі – старшыня прафкаму Маскоўскага раёну Ларыса Фёдараўна Багадзяж, якая, прыцягваючы нашых спецыялістаў для сваіх семінараў, паралельна займалася падрыхтоўкай статуту новага прафсаюзу. Яна хоча быць лідэрам прафсаюзу – калі ласка, але ж давайце па-людску рашаць гэтыя пытанні. Не задавальняе праца цяперашняга кіраўніцтва – у нас ёсць пленум, прэзідыум, а яна – сябра прэзідыуму прафкаму.

**Рыгор БУЯН**

# Сіроцкія школы з калгасным заданнем

## *У Беларусі ўсе школы-інтэрнаты абавязаныя зараз развіваць сельгасвытворчасць*

110 гектараў ворыва і пашы лічацца ў доўгатэрміновай арэндзе за Івянецкай школай-інтэрнатам. 20 гектараў з іх перадаў навучальнай установе гэтай вясною суседні калгас імя Арджанікідзе. Малады старшыня гаспадаркі Аляксандр Кучынскі не мог адмовіць педагогу з 45-гадовым стажам Фёдару Гольшміту, бо ад інтэрнату патрабуюць у аблвыканкаме дадаць да леташніх аб'ёмаў сельгасвытворчасці яшчэ 30 працэнтаў.

Летась, дарэчы, дапаможны школьны сельгасмеханізм працаваў практычна без збояў і даў 56 мільёнаў рублёў грашовага прыбытку. Школа прадавала адкормленых свіней і лішак бульбы. Для інтэрнацкай свінафермы і кароўніка ўдосталь нарыхтавалі збожжа, буракоў і сена. Працоўныя паказчыкі замацаваліся на ўзроўні стандартнага калгасу, хаця ў школе ўсяго 140 чалавек дарослых. Прафесіяналы ў навучальнай установе маюць абавязкі, вызначаныя службовай інструкцыяй, як правіла – вельмі далёкія ад пратручвання насення ці пераборкі бульбы. Шмат хто з настаўнікаў адмаўляецца глытаць пыл у баразне на шкоду адукацыйнаму працэсу і ахоўвае ад гэтага дзяцей, але, як той казаў, працэс зайшоў далёка. Прыбытковая вытворчасць міні-калгасу ўсё больш адлучае сіроцкі дом ад бюджэтнага фінансавання, і калі здарыцца недарод на палях, то гэта будзе для дзяцей страшней, чым двойкі ў табелі.

Школа ў Івянцы нароўні з калгасамі ўключана ў разнарадку райсельгасхарчу па забеспячэнні дызельным палівам і бензінам, мінеральнымі ўгнаеннямі і гербіцыдамі. Каб разлічыцца за іх з дзяржавай, трэба няўхільна павышаць ураджайнасць, прывагі і надоі. Дзіцячая праца набывае рынкавы кошт. І невыпадкова ў структурах улады пралічваюць магчымасці вытворчага патэнцыялу сіроцкіх устаноў. Прыкладам, у красавіку Мінаблвыканкам праводзіць абарону праграм перспектыўнага развіцця дзіцячых дамоў і школ-інтэрнатаў. Тут зараз 3 700 дзяўчынак і хлопчыкаў. Па загадзе зверху іхныя выхавацелі мусяць вызначыць кірунак працоўнай дзейнасці падапечных на тэрмін да 2006 году. Па словах намесніка начальніка абласнога ўпраўлення адукацыі Мікалая Бажко, Жодзінская школа-інтэрнат, Клецкі дзіцячы дом, Уздзенская санаторная школа для дзяцей з забруджаных раёнаў, Гарадзейская і Станькаўская школы-інтэрнаты паспяхова асвойваюць сельскагаспадарчую вытворчасць.

**Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ**

### Каментар НАШАЙ СВАБОДЫ

Дзяржаве ўжо не па сіле ўтрымліваць больш як 30-тысячную інтэрнацкую сістэму, перанасяленне якой – вынік дэфармавання грамадства з-за беспрацоўя, п'янства і наркаманіі. Як і пасля вайны, дзіцячыя камуны па 250–300 чалавек уцягваюцца ў цяжкую фізічную працу на дапаможных фермах і майстэрнях. Робіцца гэта быццам бы з добрым намерам: каб дзеці навучыліся абслугоўваць саміх сябе. Уголас ніхто з чынавенства не прызнае, што не хапае сродкаў для нармальнага функцыянавання «выспаў безбацькоўства», выхаванцы якіх маглі б на старце свайго самастойнага жыцця складаць канкурэнцыю дзецям з не пакрыўджаных лёсам сем'яў. Камп'ютэры, паглыбленае вывучэнне гуманітарных і дакладных прадметаў, а таксама індывідуальнае рэпетытарства сіротам замяняе калгасная праца.

# Анамаліі ў чарнобыльскіх пасынкаў

Увесь свет ведае пра знішчаны сасновы бор у некалькіх кіламетрах ад Чарнобыльскай АЭС. Ударная доза апраменьвання ў першыя хвіліны выбуху зрабіла яго вогненна-рыжым. Здавалася, што тут не засталося нічога жывога. Але прафесійная ўвага беларускіх вучоных з Інстытуту лесу пры Нацыянальнай акадэміі навук дазволіла выявіць неверагоднае: на асобных дрэвах ажылі зялёныя пупышкі. Праз некаторы час батанікі выразалі ўстойлівыя да радыяцыі чаранкі, каб прышчапіць іх у Каранёўскім лесе на Гомельшчыне. Эксперымент меў на мэце прасачыць, наколькі негатыўна паўплывала радыяцыя на развіццё хвойных дрэваў.

«Дзеці Чарнобылю», як называюць маладыя хваінкі вучоныя, развіваюцца са значнымі анамаліямі. Яны моцна адстаюць у росце ад соснаў-аднагодак. А замест звычайных аднапарных хвоек на іх сустракаюцца трох-, чатырох- і нават пяціпарныя. Навукоўцы адзначаюць, што па выніках сабранага імі матэрыялу заўважаныя і больш глыбокія змены. Дослед, які дапамагае пазнаць наступствы чарнобыльскай трагедыі, працягваецца.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

# Забітага хавалі двойчы

Эксгумацыю цела нябожчыка давялося зрабіць судмедэкспертам, каб атрымаць доказы гвалтоўнай смерці пенсіянера з вёскі Раванічы Чэрвеньскага раёну. За тыдзень да гэтага радня і знаёмыя пахавалі дзеда з адпаведнымі ўшанаваннямі.

Падазрэнні наконт абставінаў сыходу бацькі ў незямны свет з'явіліся ў яго сына, жыхара гораду Мінску. Ён правёў уласнае расследаванне і, паводле здабытых доказаў, звярнуўся ў райпракуратуру з просьбай узбудзіць крымінальную справу аб наўмысным забойстве.

Як паведаміў пракурор Чэрвеньскага раёну Сяргей Каваленка, вінаватымі ў забойстве прызнаныя трое навучэнцаў мясцовай школы. У трагічны для старога дзень яны прадалі яму шматок сала, атрымалі грошы, разам выпілі, а ўначы прыйшлі па дадатковую пажыву. Адзін з падлеткаў шукаў у хаце грошы і баявыя медалі, а двое яго раўналеткаў катавалі сваю ахвяру: зацягнулі на дзедавай шыі рэмень, а для большай упэўненасці ў смерці ўклалі яму ў рукі агаленыя канцы правадоў з электраразеткі...

Ніколі яшчэ вёска Раванічы не ведала столькі чорнай людской злосці. У школе рыхтуюцца да звальненняў. Двое з тройкі непаўналетніх забойцаў гадаваліся ў няпоўных і нешчаслівых сем'ях.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

# Габрэйскі дом на вуліцы Харужай




24 красавіка ў асабняку па вуліцы Веры Харужай, 28 адбылося ўрачыстае адкрыццё Мінскага габрэйскага абшчыннага дома (МГАД). Упершыню ў СНД пад адным дахам сабраліся практычна ўсе габрэйскія арганізацыі Беларусі. *МГАД* – гэта лекцыйна-асветніцкія, літаратурныя, гуманітарныя, рэлігійныя і гістарычныя праграмы. У абшчынным доме, які набыты ва ўласнасць у будаўнічай арганізацыі і пераабсталяваны на дабрачынныя ахвяраванні, атрымалі сталае прадстаўніцтва больш як 100 арганізацый Саюзу Беларускіх Габрэйскіх аб'яднанняў і абшчынаў.

Вітаць наваселле Мінскага абшчыннага дома прыехалі дэлегацыі Амерыканскага габрэйскага аб'яднанага размеркавальнага камітэту «Джойнт», гуманітарнага праекту «Габрэйская міжнародная ахова здароўя». Прысутнічалі кіраўнікі дыпламатычных місіяў ЗША, Ізраілю, Літвы, некаторых іншых дзяржаваў, а таксама прадстаўнікі сталічнай адміністрацыі. Прэзідэнт Саюзу Беларускіх Габрэйскіх грамадскіх аб'яднанняў і абшчынаў Леанід Левін у слове падзякі падкрэсліў, што дзверы Мінскага абшчыннага дома адкрыты для ўсіх. Для наведнікаў яны гасцінна адчыніліся задоўга да дня ўрачыстасці.

**Галіна БАРАВАЯ**

# Каб не засох Курган Славы

Цяперашняй незвычайна цёплай вясной зарана пачаліся праблемы ў супрацоўнікаў мемарыялу «Курган Славы», што на 21-м кіламетры аўтамагістралі Мінск–Масква. Сістэма штучнага паліву і басейн, з якога бяруць ваду, знасіліся і патрабуюць капітальнага рамонту. Былы зялёны газон на схілах кургана даўно ўжо страціў сваю натуральную прывабнасць. Каб пазбавіцца ад пустазелля на ім, неабходна наноў апрацаваць зямлю і перасеяць траву.

Догляд за манументам ля дарогі – абавязак нешматлікай жаночай брыгады. Зрэдку жанкам дапамагае тэхніка, якую ўдаецца замовіць у тамтэйшым калгасе імя Арджанікідзе Смалявіцкага раёну. Усе просьбы аб уласным трактары адкідаюцца з-за адсутнасці фінансавых сродкаў.

**Даведка НАШАЙ СВАБОДЫ**

Курган Славы Савецкай Арміі – вызваліцельніцы Беларусі быў закладзены 30.09.1966 г., адкрыты – 05.07.1969 г. Курган узвышаецца на 35 метраў. Металічныя штыкі наверсе сімвалізуюць сабою 4 франты – 1, 2, 3 Беларускія і Прыбалтыйскі. За 33 гады гэты арыгінальны помнік заслужыў хаця б адзін капітальны рамонт.

**Галіна БАРАВАЯ**

ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ
26 КРАСАВІКА




17.30 ПЯТНІЦА
АКАДЭМІЯ НАВУК

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Далёка ад радыяцыі

*У Хатыні ёсць мемарыял спаленых фашыстамі ў гады вайны беларускіх вёсак. Больш вайны не было, але рэчаіснасць спарадзіла трагічную неабходнасць з'яўлення новага падобнага мемарыялу зніклых паселішчаў. Сярод іх – Дубяец, вёска маёй бабулі ў Касцюковіцкім раёне на Магілёўшчыне, дзе апошні раз я прабавіў лета пасля першага класу. Пах бабулінай хаты цяпер памятаецца мне нягуста, быццам бы скрозь сон. У адрозненне ад маёй бабулі, якую Чарнобыль змусіў уцякаць ад радыяцыі да нас у Мінск у 1990 годзе.*

У сталіцы перасяленцам-чарнобыльцам аддалі мікраараён Малінаўка. Часта думаю, як ім, вяскоўцам, на асфальце? Нягледзячы на урбаністычныя выгоды, усё ж такі цяжка, відаць. І маральна, і фізічна... Цяжка быць адарванымі ад звыклага побыту, ад прыроды, ад зямлі. Нездарма ў Малінаўцы і за кальцавой, і ў рысе гораду чарнобыльцы робяць сабе грады пад бульбу ды пад буракі, не зважаючы на шкодныя выкіды мінскіх заводаў і транспарту.

У вайну бабулю з радзімы на прымусовую працу за Эльбу звезлі немцы. Тады яна вярнулася дахаты. Зараз жа толькі даводзіцца з прыхаванай нецярплівасцю чакаць Радуніцы, калі мае бацькі амаль штогод разам з ёй ездзяць на дубяецкія могілкі.

– Помню, як дазналіся пра радыяцыю мы ў вёсцы, то дужа напужаліся, бо чуткі ўсялякія былі. Казалі, што калі радыяцыя, дык адразу паміраць. Але нічога: хадзілі, працавалі, ваду з крыніц бралі, ягады і грыбы збіралі, хаця і забаранілі ў лес хадзіць. Нават калгас усе палі засяваў і ўраджаі збіраў. Жылі як жылі. Нам сталі розныя фрукты вазіць, прадукты, што радыяцыю выводзяць, напрыклад, бананы сушаныя. Гэтак далікатэсаў пакаштавалі. Сталі даплаты за тое, што жывем тут, даваць. Мы іх «грабавымі» называлі. А пазней ужо прыехалі салдаты, хадзілі па хатах, замяралі, дзе якая радыяцыя. Выходзіла так, што шмат яе паўсюдна, але троху болей там, у каго брудна. Нам пачалі тлумачыць, што радыяцыя – гэта дужа небяспечна для здароўя, што ў нашай вёсцы яе багата, таму трэба ўсіх высяляць адсюль. Хоць чорт яе ведае гэтую радыяцыю, можа, яна была ўсё жыццё, раней жа не мерылі, не шукалі нічога такога.

***– Вельмі ж не хацелася, мусіць, кідаць родную хату?***

– І як яшчэ. Сказалі, што ў чыстым месцы ў 25 кіламетрах ад нас будуць будаваць дамкі і наш Дубяец у іх перасяляць. Хто туды паехаў, каго са старых, як і мяне, дзеці да сябе ў гарады забралі. Але дагэтуль шмат старых ужо памерла, у асноўным ад раку. Тут у Мінску добра і ўсе выгоды, а ўсё адно часта сумуеш па радзіме. Каб працы на зямлі трохі і кураў! Добра, што на дачу ўлетку езджу. Але калі б сказалі зараз, што няма радыяцыі, можна вяртацца на вёску, дык не паехала б, бо старая ўжо і хворая.

***– Ці ўсе пакінулі вёску?***

– З 85 хат адна баба доўга яшчэ жыла. Без электрыкі, а прадукты пляменнік ёй прывозіў, бо не хацеў да сябе забіраць. А зараз там нікагенька няма. Усё зарасло. Як прыязджаеш туды, пабачыш сваю хату, дык ажно сэрца сціскае. У нас двор зацэментаваны быў, дык на ім праз цэмент вярба вырасла роўна з хатай. Я нікому нічога не кажу, а цішком паплачу. Людзі з іншых вёсак прыязджаюць у нашую, разбіраюць хаты, на радыяцыю не зважаюць і бяруць сабе на будаўніцтва то дошкі, то шыфер. Радыяцыя ў нашых мясцінах неяк плямамі легла. Там ёсць, там няма. Напрыклад, вёску, што ў 5 кіламетрах ад нас, нават не высялялі. Нам, на жаль, не пашанцавала.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

# Дачакаўся Варабей прылёту Лукашэнкі

*Уладзімір Варабей – галоўны ўрач спецдыспансера радыяцыйнай медыцыны, які будуецца ў Гомелі яшчэ з 1990 году. Нават калі не ставала аперацыйных для выратавання хворых на рак чарнобыльцаў, у рэгіёнах штампавалі лядовыя палацы.*

А ўвесь гэты час на будоўлі ў Гомелі не асмельваліся груба закапаць у глебу сродкі, акумуляваныя ўрадам Вячаслава Кебіча. Тады ўжо існавала кантрактнае пагадненне са швейцарскай фірмай «Смелт-Інтанг». Фінансавыя гарантыі перад гэтым генпадрадчыкам былі ўскладзеныя на Міністэрства аховы здароўя. Дзве спробы зачасна замарозіць будоўлю каштавалі беларускаму боку выплаты значных грашовых сум неўстойкі. Акрамя таго, цікавасць да задумы стварыць у цэнтры забруджаных тэрыторый на памежжы Беларусі, Расіі і Украіны навукова-лекавы цэнтр па даследаванні ўздзеяння малых дозаў радыяцыі на арганізм чалавека выказвалі фонды і арганізацыі Японіі, ЗША, Германіі. Праўда, замежныя партнёры абяцалі дапамогу, калі дыспансер будзе пабудаваны. Цэглу з Захаду не возяць нават у адсталыя ваколіцы. Будавалі, аднак, як мокрае гарыць.Таму ў красавіку 2002 году фірма «Смелт-Інтанг» зноў накіравала пісьмовыя прэтэнзіі, на гэты раз ужо на імя новага міністра-лекара сп. Астапенкі. Калі зімой будаўнікі з замежжа маглі абмежавацца вузкім фронтам працы, то з надыходам цяпла кожны з іх жадае зарабіць. Захады для гэтага зараз быццам бы робяцца.

Паводле словаў Уладзіміра Вараб'я, у апошні час падрыхтаваны другі, таннейшы, варыянт фінансавання даўгабуду. Дзеля эканоміі прадугледжана адмова ад будаўніцтва шэрагу памяшканняў для дапаможных службаў. А з усяго ўводнага комплексу да 2005 году зараз вылучаны для падрыхтоўкі ў эксплуатацыю толькі паліклініка і лабараторыя. Каштарыс пачатковага этапу – каля 5 мільярдаў рублёў. На першы квартал замовілі ў бюджэце праз Міністэрства аховы здароўя 800 мільёнаў рублёў. Атрымалі – 240 мільёнаў, з якіх 150 мільёнаў адразу аддалі будаўнікам па ранейшых даўгах. Яшчэ 30% рэшты сумы выплацілі ў студзені па нарадах, закрытых у снежні 2001 году. Зараз, на другі квартал, прасілі 1,9 мільярда рублёў. У красавіку з Мінску пералічылі 150 мільёнаў. Гэта ўсяго 11% ад патрэбнага.

Як не паскардзіцца цяпер У.Вараб'ю, што ў мінулым годзе па просьбе Гомельскага аблвыканкаму Мінфін узяў з мэтавых сродкаў 2 мільярды 600 мільёнаў на падрыхтоўку да зімы гарадскога калектара і яшчэ 300 мільёнаў – на розныя рэспубліканскія аб'екты ў рэгіёне. Напрыканцы мінулага году з рахунку будоўлі знялі яшчэ 1 мільярд рублёў.

Сёлета першыя два месяцы таксама былі страчаныя. І толькі калі ў сакавіку пайшлі чуткі, што Лукашэнка збіраецца ў прапагандыскі вояж па чарнобыльскай зоне, чыноўнікі скемілі скарыстаць такі момант. Будоўлю наведалі міністр аховы здароўя Уладзіслаў Астапенка і старшыня Гомельскага аблвыканкаму Аляксандр Якабсон. Ля сценаў карпусоў, да якіх падведзеныя ў трубах вада і цяпло, абодва выказалі спадзяванне, што візіт іхнага патрона можа падварушыць справу.

У Гомелі да прыезду Лукашэнкі адгарадзілі драўляным парканам прыватны сектар на паўночным выездзе з гораду. Вялікія сілы былі адцягнутыя на працу па добраўпарадкаванні і на іншых вуліцах, якія сталі маршрутам руху прэзідэнта. Тут зрабілі ямачны рамонт дарожнага пакрыцця, разметку асфальтавага палатна, пабялілі дрэвы і бардзюры.

**Вячаслаў КАЛІНОЎСКІ**

**РЭПЛІКА**

# Эканамічная бяспека Літвы пад пагрозай?

«Дарэчы, Літва, па-мойму, 30 працэнтаў бюджэту фармуе за кошт перавозак калійных беларускіх угнаенняў. 30 працэнтаў! А калі мы заўтра маршрут памяняем? Калі нам выгадна будзе везці пад Ленінград і там перавалку гэтых 5 мільёнаў тон грузаў рабіць? Што будзе з літоўскім бюджэтам?

Гэта цытата з выступлення прэзідэнта Лукашэнкі перад народнымі абраннікамі. Яна выклікае трывогу за нашага паўночнага суседа. Дзяржава з насельніцтвам 3692 тысячы чалавек жыве за кошт транзіту беларускіх калійных угнаенняў. І як жыве! З сярэдняй зарплатай каля 300 даляраў у месяц ды сярэдняй працягласцю жыцця ў 73 гады.

У амбасадзе Літоўскай Рэспублікі ветлівы чыноўнік даў мне невялікую брашуру – «Літва ў лічбах 2001». Я пагартаў. Маё здзіўленне і трывога адно ўзмацніліся. Уяўляеце – усе віды транспарту Літвы перавезлі летась 112,4 мільёна тонаў грузу. Недзе тут згубіліся нашы 5 мільёнаў. Але які эфект для бюджэту! Толькі пасля гэтага невялікага аналізу я сапраўды зразумеў словы прэзідэнта: «Тыя, хто па накінутых звонку рэцэптах, у мітусні правялі прыватызацыю, груба кажучы, загубілі рэальны сектар эканомікі, пусцілі пад нож прадпрыемствы...».

«Груба кажучы» – гэта яшчэ мякка сказана. Уся літоўская эканоміка працуе практычна дарэмна. Адно нашымі калійнымі солямі і ратуецца.

Можа і нам кінуць усе гэтыя гульні ў прыватызацыю і вазіць па краіне ўгнаенні туды-сюды? Бач, і бюджэт залатаем.

**С.Н.**

# Рэанімацыя сацрэалізму ў Мастацкім музеі

Для людзей з настальгіяй па мінулым часе 22 красавіка ў Нацыянальным Мастацкім музеі адчынілася выстава «Сацрэалізм 40–70-х гадоў у мастацтве Беларусі». На ёй прадстаўлены творы беларускіх мастакоў савецкага часу М.Савіцкага, Г.Вашчанкі, Н.Воранава, І.Ахрэмчыка ды іншых з настальгічнымі назвамі – «Камсамольцы 70-х», «Ленін і Н. К. Крупская сярод навучэнцаў», «Незабыўнае. Ленін на Смаленшчыне».

Гэтым разам супрацоўнікі музею відавочна перастараліся. Ад партрэтаў сакратароў камсамольскіх арганізацыяў, заатэхнікаў калгасаў, ударнікаў працы, піянераў патыхае савецкай мінуўшчынай, калі традыцыйна 22 красавіка савецкія людзі ўзгадвалі пра нараджэнне правадыра, «які асвятліў шлях».

Зараз, зразумеўшы неадназначнасць сітуацыі, у музеі апраўдваюцца, кажучы, што «проста не прыехала выстава з Масквы, якую чакалі», што «гэта таксама мастацтва і частка нашай гісторыі». Можна пагадзіцца з тым, што гэта мастацтва «сацыялістычнага рэалізму», але ж яго нельга падаваць сённяшняму гледачу без адпаведнай інтэрпрэтацыі.

Выстава працягнецца яшчэ тры месяцы. За гэты час музей наведаюць школьнікі, моладзь, прыйдуць з экскурсіямі турысты з далёкага і блізкага замежжа. Усім ім прыйдзецца зрабіць дзіўнае падарожжа ў часе. Музейныя выставы адлюстроўваюць ідэалогію і музею, і ўладаў. Хіба настальгія па ленінскіх ідэях – наша сённяшняя ідэалогія?

Дарэчы, музей наведаў міністр культуры Беларусі Леанід Гуляка, які на фоне прапагандысцкіх палотнаў даў інтэрв'ю для Беларускага тэлебачання.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

**СВОЙ ГОЛАС**

***– Ці правільна, на вашую думку, тое, што нашая ўлада прапагандуе засяленне людзей на тэрыторыях рэспублікі, забруджаных радыеактыўнымі выкідамі ў часе катастрофы Чарнобыльскай АЭС?***



**Святлана, студэнтка:**
– Трэба, каб прайшоў час і тэрыторыі ачысціліся ад радыенуклідаў. Нават калі шмат часу пройдзе, я туды не паеду.





**Аляксей, перакладчык:**
– Канечне, няправільна. Наўрад ці тыя радыенукліды, якія трапілі ў глебу ў 1986 годзе, ужо выйшлі з яе. Там жа перыяд паўраспаду амаль 1 000 гадоў! Засяленне туды паўплывае на нашых нашчадкаў, на іхныя гены, і ўсё гэта да нас вернецца.



**Аксана, аператар:**
– Вы б там хацелі жыць?! Не? Я таксама! Там жа глеба забруджаная радыяцыяй.



**Віктар, рабочы:**
– Думаю, што засяляць варта толькі тады, калі ўжо не будзе там радыяцыі. Але ж мы ў той час там жыць ужо не будзем...





**Сяргей Салтыкоў, былы супрацоўнік МУС:**
– Вельмі няправільна. Я сам там знаходзіўся, працаваў у забруджанай зоне 45 дзён, і з таго часу стаў хварэць, зараз інвалід 3 групы. Зубы амаль усе выпалі, косці рассыпаюцца. А быў я там дазіметрыстам, і дзякуй Богу, што выгналі мяне адтуль раней тэрміну за тое, што перадаваў колькасць кюры па прамым провадзе.



**Юры Станіслававіч, працуе ў камітэце па энергаэфектыўнасці:**
– Ну, калі хто жадае, няхай едзе туды. Што зробіш? З гэтай планеты нікуды не паедзеш, значыць, трэба засяляцца!





**Таццяна, выкладчыца ў школе:**
– Асабіста я супраць гэтага. Калі ўлады гэта прапагандуюць, няхай самі туды і едуць! Але ж яны туды жыць не паедуць.



**Сяргей, настаўнік:**
– Там павінна быць каранцінная зона, нешта павінна рабіцца для ачышчэння тэрыторый тых, а людзей туды нельга засяляць. Я б туды не паехаў ні за якія грошы. Але мяне зараз пасля ВНУ хочуць размеркаваць некуды туды працаваць.



**Фаіна, выкладчык ВНУ:**
– Безумоўна, няправільна. Я б не паехала туды ні за якія грошы – здароўе даражэйшае, яго не купіш ні за якія грошы.

Апытанне праводзілі
**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ і Уладзімір ШЛАПАК (фота)**

**ТАЯМНІЦЫ**

# Танней – толькі скрасці?

Аляксандр Лукашэнка адмаўляецца раскрываць фінансавыя крыніцы, за кошт якіх былі набыты аўтамабілі «мерседэс» для чыноўнікаў уладнай «вертыкалі».

Выступаючы 23 красавіка ў Палацы прадстаўнікоў, прэзідэнт заявіў, што машыны, колькасць якіх, як паведамлялася раней, складае 170, былі набытыя «за бесцань». Прэзідэнт заявіў, што на куплю «мерседэсаў» з бюджэту не было ўзята «ні капейкі». «Дзе ўзяў – гэта мая справа. Я законна іх узяў», – заявіў Лукашэнка. Паводле яго слоў, кіраўнік справамі прэзідэнта Галіна Жураўкова асабіста ездзіла ў Германію і вяла перамовы аб куплі гэтых аўтамабіляў.

Неабходнасць замены транспарту для «вертыкалі» кіраўнік дзяржавы патлумачыў тым, што чыноўнікі ўжо 7 гадоў ездзяць на старых аўтамабілях і новыя «мерседэсы» ім выдзяляюцца на наступныя 7 гадоў. «Купілі ўсім адразу. Вось, хлопцы, сем гадоў – працуйце, больш не будзе», – сказаў прэзідэнт. Як адзначыў Лукашэнка, для чыноўнікаў маглі быць куплены і расійскія «волгі», аднак, паводле яго словаў, у гэтых аўтамабіляў вялікі расход паліва, «практычна тая ж цана», што ў «мерседэсаў», а эксплуатацыя «ў некалькі разоў даражэйшая».

**Юрый ПАЦЁМКІН**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Сталенне разам з Чарнобылем

*За 16 год пасля Чарнобыльскай аварыі выраслі некалькі пакаленняў беларусаў. Кагосьці з нашых суайчыннікаў радыяцыя ўжо «спаліла», многіх яна забівае пакрысе і незаўважна.*

**«Ёдны ўдар»**

За гэты час ад раку шчытападобнай залозы памерлі 2 дзіцяці, 3 падлеткі і 6 дарослых ва ўзросце да 33 год. Гэта смерці ад радыяцыі толькі сярод тых, каму на момант аварыі не было яшчэ 18 год. Тады на 90 дзён пасля аварыі ўсё насельніцтва патрапіла пад моцнае апраменьванне радыенуклідамі ёду – так званы «ёдны ўдар». Ён і спрычыніў павелічэнне колькасці выпадкаў раку шчытападобнай залозы. Як кажуць медыкі, да аварыі на ЧАЭС рак «шчытавідкі» быў досыць рэдкай з'явай: напрыклад, у 1985 годзе яго было выяўлена толькі каля 100 выпадкаў. Цяпер колькасць дарослых, што захварэлі на яго, павялічылася ў 7 разоў, дзяцей – у 33,6 разы. Большасць пацярпелых – з Берасцейшчыны і Гомельшчыны.

Медыкі-анколагі дагэтуль не ведаюць, якіх наступстваў чакаць ад гэтага ўдару. Вывучыўшы вопыт Хірасімы і Нагасакі, пасля Чарнобыльскай аварыі ўсе чакалі росту лейкозаў – яны лічацца галоўнымі маркёрамі радыяцыйных наступстваў. Аднак нечакана для ўсіх «выбухнула» шчытападобная залоза – 1 677 выпадкаў раку сярод тых, хто падчас аварыі быў маладзейшы за 18 год. Часцей пухліны сустракаюцца сярод дзяцей і падлеткаў – 677 і 377 выпадкі адпаведна. І гэта не дзіўна, бо чым меншым быў узрост дзіцяці падчас апраменьвання, тым большай для яго стала доза атрыманай радыяцыі. Таму цяпер больш за ўсё ад радыеёду пакутуюць дзеці, якім на час аварыі не было яшчэ і 7 год.

Хварэць яны пачалі толькі праз 4 гады пасля катастрофы. З 1990 году пайшоў заўважны рост ракавых захворванняў «шчытавідкі», і ў 1995 годзе – гэта быў пік – ён дасягнуў 90 выпадкаў на 1 мільён чалавек. Час ідзе, дзеці растуць, і з 1997 году хваля хваробы разам пасталелымі дзецьмі перайшла ў «падлеткавую групу». Сярод 15–17-гадовых у 2001 годзе паказчык па раку быў вельмі высокі – 11,3 выпадкі, а на Гомельшчыне – нават 47,9 выпадкаў на 100 000 насельніцтва.

Зараз рак шчытападобнай залозы лечаць радыеёдтэрапіяй, аднак нават калі яна зараз дапамагла, няма ніякай упэўненасці, што заўтра ў гэтага чалавека не з'явіцца рак на якім-небудзь іншым органе. А магчыма, выявіцца які-небудзь пабочны эфект ад тых гармонаў, якія гэтыя выратаваныя людзі мусяць прымаць пасля аперацыі ўсё жыццё. Увогуле, медыкам зараз цяжка што-небудзь спрагназаваць і на 15 гадоў наперад. Аднак чакаецца, што да 2036 году (да 50-годдзя аварыі) на рак шчытападобнай залозы захварэюць 12,5 тысяч чалавек.

**Ці ўдарыць цэзій?**

Затое, як сцвярджае кіраўнік Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтру пухлінаў шчытападобнай залозы Юген Дзямідчык, у дзяцей, што нарадзіліся пасля 1986 году, няма рызыкі захварэць на рак шчытападобнай залозы. Добра, што ім пашэнціла пазбегнуць той знешняй «атакі» радыеёду. Аднак зараз самая вялікая бяда – гэта ўнутранае апраменьванне на забруджаных тэрыторыях. Гэта значыць – праз прадукты харчавання. Для людзей, якія там пражываюць, межавая доза апраменьвання ўсталявана ў 1 мЗв/год, і 80% ад яе яны атрымліваюць толькі праз малако.

Уся радыяцыя, а дакладней, радыеактыўны цэзій, зараз сабралася ў глебе і па ланцугу праз ваду, праз траву, якую ядуць каровы, ці праз тую ж бульбу, якую вырошчваюць на той глебе, трапляе ў ежу. Розныя прадукты па-рознаму назапашваюць у сабе радыяцыю. Найбольшую небяспеку нясуць з сабою парэчка, агрэст, грыбы (масляні і польскі грыб), прыдонныя і драпежныя рыбы, дзікія жывёлы.

Каб перакрыць цэзію ўсе шляхі пераходу ў прадукты харчавання, у зямлі ўносяць калійныя і фосфарныя ўгнаенні, вапнуюць іх, а пашы пераворваюць і засяваюць новай травой (перазалужваюць). Такія пашы могуць быць бяспечныя для выпасу жывёлаў да 2 да 10 год. У нас іх хапае толькі гадоў на пяць.

Паводле словаў дырэктара Беларускага НДІ глебазнаўства і аграхіміі Язэпа Багдзевіча, у грамадскім сектары сельскай гаспадаркі забруджаныя прадукты сустракаюцца не часта. Малако, напрыклад, часцей за ўсё мае 20 Бк/літр пры дапушчальнай норме ў 100 Бк. Прычым па цэзіі ўсе нормы прыкладна супадаюць з расійскімі і ўкраінскімі, а па стронцыі нават у 10 разоў перавышаюць іх.

Затое прыватны сектар, падсобныя гаспадаркі – гэта сапраўды галаўны боль. Людзі часта ігнаруюць усе гэтыя абарончыя захады і пасвяць каровы не на спецыяльных залужаных пашах, а там, дзе зручней, каля дому. А потым спакойна ядуць мяса і п'юць малако, якія літаральна «фаняць». Так, летась забруджанае малако было выяўлена ў 325 вёсках. Такім чынам, з зямлі цэзій пераходзіць у чалавечы арганізм і там назапашваецца. І зноў жа дзеці і тут самыя неабароненыя. Таму выказваецца думка, што нормы дозаваў мяжы ў прадуктах харчавання для іх трэба знізіць.

Усе гэтыя агразахады адначасова накіраваны і на ачышчэнне і падвышэнне ўраджайнасці забруджаных земляў. Для гэтага, паводле Язэпа Багдзевіча, неабходна як мінімум 77 мільёнаў даляраў на год. Рэальна атрымліваецца значна меней. 20 мільёнаў даляраў – гэта максімум, які выдзелены сёлета. Такім чынам, рэальна залужваецца, вапнуецца і насычаецца ўгнаеннямі толькі 80% ад запланаваных плошчаў.

**Алена ЛАБАНАВА**

**НЕВЕРАГОДНАЕ**




Беларускае пасольства ў Вене паведаміла аўстрыйцам, што Чарнобыльская катастрофа адбылася ў 1996 годзе

## Ільготы прадпрыемствам у пацярпелых раёнах

Міністэрства эканомікі падрыхтавала праект дэкрэту прэзідэнта, які прадастаўляе дадатковыя льготы суб'ектам гаспадарання, што дзейнічаюць у раёнах, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Пра гэта 24 красавіка паведаміў дэпутатам намеснік міністра эканомікі Андрэй Тур.

Дакумент мае на мэце ўнясенне змяненняў у дэкрэт прэзідэнта ад 25 красавіка 2001 году №10 «Аб мерах па сацыяльна-эканамічнай рэабілітацыі раёнаў, што пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС».

Дэкрэтам, нагадаем, прадастаўляюцца льготы па выплаце падатку на прыбытак для юрыдычных асоб, зноў ствараемых на тэрыторыях, уключаных у зоны адсялення. Дадзены падатак на працягу пяці гадоў выплачваецца па стаўцы 15 працэнтаў, а вызваляемыя такім чынам сродкі, у адпаведнасці з дэкрэтам, падлягаюць залічэнню ў фонд назапашвання і павінны выкарыстоўвацца на вытворчае развіццё.

Аднак, як зазначыў А.Тур, дэкрэт №10 не дапамог прыцягнуць у гэтыя зоны «салідных інвестараў».

Гэтым жа дэкрэтам, паведаміў А.Тур, прадугледжваецца, што зноў ствараемыя юрыдычныя асобы, а таксама дзеючыя прадпрыемствы, якія маюць устойлівае фінансавае становішча на згаданых тэрыторыях і рэалізуюць інвестыцыйныя праекты, якія атрымалі станоўчае заключэнне комплекснай дзяржаўнай экспертызы, на працягу пяці гадоў будуць вызваляцца ад надзвычайнага чарнобыльскага падатку.

**БелаПАН**

# Наш лёс – Чарнобыль

*Сёння Чарнобыль паўстае для нас перадусім як праблема медыцынская, сацыяльная. Але наступствы гэтай катастрофы значна перавышаюць нашыя ўяўленні. Чарнобыль – гэта існаванне ў зусім іншых, нязвыклых і раней не вядомых адчуваннях. Свет, які раней нам быў такі блізкі, зараз хавае ў сабе небяспечную таямніцу для кожнага, хто з ім сутыкаецца.*

Перад Чарнобылем усе роўныя. Кожны, каго закранула гэтая трагедыя, хто на ўласныя вочы пабачыў яе наступствы, разумее, што перад ёй нівелююцца звыклыя для нас разуменні і паняцці. Няма розніцы, хто ты, важна, дзе ты быў, калі ўзарваўся чалавечы спакой, чалавечае сумленне, звыклае штодзённае жыццё, і дзе ты ёсць зараз.

***Ці была б іншай Беларусь, калі б не было Чарнобылю?***

***Чым стала для нас гэтая трагедыя за мінулыя гады?***

***Што чакае нас?***

**Валеры ШЧУКІН, журналіст, праваабаронца:**

Мяне ў той час не было ў Беларусі, я быў на Далёкім Усходзе. Чарнобыль хутчэй за ўсё паўплываў на маю малодшую дачку, якой тады не было і году. Тады ўсё адбывалася хатычна. Зараз, на мой погляд, мы разнеслі Чарнобыль па ўсёй Беларусі. Людзі ехалі адтуль, везлі з сабой рэчы, мэблю. Мы не бараніліся ад радыяцыі не толькі таму, што не ўмелі, але і не хацелі гэтага рабіць.

На мой погляд, Чарнобыль – гэта тэхнагенная катастрофа, якая магла б здарыцца ў любой краіне. Казаць, што гэта менавіта для Беларусі нейкая боская кара, я не бяруся. Няма ў мяне такога адчування.

**Віктар ФЕДАСЕЕЎ, першы намеснік старшыні Камітэту па энергаэфектыўнасці пры СМ РБ:**

Канечне, усё, што тычыцца забруджаных рэгіёнаў, для мяне выходзіць за рамкі асабістага. Я вельмі спачуваю тым, хто перажыў гэтую трагедыю. Па прафесійнай дзейнасці прыходзіцца займацца пытаннямі забруджаных тэрыторый, рэабілітацыяй, аддаваць больш увагі тым месцам, якія пацярпелі. Я спачуваю гэтым людзям, на якіх Чарнобыль уздзейнічаў і ўздзейнічае зараз.

Не падзяляю апакаліпсічных выказванняў наконт Чарнобылю. Гэта сігнал для нас, што акрамя прыродных катаклізмаў здараюцца катастрофы, зробленыя чалавечымі рукамі. Гэта вымагае ад нас думаць пра наступствы, адказна падыходзіць да таго, што мы робім, асабліва да справаў, якія на нас не завяршаюцца, а за якія, магчыма, давядзецца расплачвацца нашым дзецям.

**Павел СЕВЯРЫНЕЦ, Малады Фронт:**

Зараз Беларусь цяжка ўявіць сабе без Чарнобылю. Настолькі незваротныя, усёпранікальныя наступствы ён мае, што за гэтыя гады стаў ужо неад'емнай часткай нашага жыцця.

Страшныя выпрабаванні не павінны быць для беларусаў марнымі. Гэта нават не столькі праблема ці катастрофа, на маю думку, колькі глабальнае папярэджанне. Усвядоміць гэта – абавязак кожнага. Абавязак перад наступнымі пакаленнямі, перад сваімі дзецьмі.

**Генадзь ГРУШАВЫ, прэзідэнт дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобылю»:**

Я думаю, што калі б не было Чарнобылю, Беларусь, безумоўна, была б сёння іншай. Бо шмат з таго, што мы сёння перажываем, так ці інакш звязана з гэтай трагедыяй. Беларусы былі б іншымі. На мой погляд, праз Чарнобыль мы даведаліся дзве рэчы. Першае – мы ніколі б не спазналі, наколькі салідарныя людзі ў свеце. І другое: Чарнобыль – гэта выклік усёй нацыі, усяму грамадству, штуршок да дзеяння, які мы, на жаль, не зразумелі і не скарысталі. Трагедыя паказала, што людзі гэтай краіны не гатовыя пачаць дзейнічаць у сваіх інтарэсах.

І самае трагічнае, на маю думку, тое, што сёння, праз 16 год, мы так і не можам сказаць, што будзе з намі далей. Нас чакае невядомы канец.

**Станіслаў АКІНЬЧЫЦ, гісторык, літаратар:**

Думаю, што калі б не было Чарнобылю, Беларусь была б такая самая, якая яна ёсць сёння. Медыка-біялагічныя наступствы Чарнобыльскай катастрофы калі і заўважны, дык толькі спецыялістам, а ў маштабе краіны яны не адчуваюцца, пра іх ніхто не гаворыць, і фактарам, які ў той ці іншай ступені вызначае жыццё грамадства, яны не сталі. У канцы 80-ых – пачатку 90-ых Чарнобыльская аварыя адыграла нават пэўную пазітыўную ролю ў фармаванні беларускай нацыі. Адчуванне супольнай бяды, якая закранула ўсіх, незалежна ад рэлігійных і палітычных перакананняў, сацыяльнага і маёмаснага статусу, спрыяла кансалідацыі беларускага народа, стала своеасаблівай візітоўкай беларусаў, якая адрознівала іх ад іншых: «Мы – народ, які пацярпеў ад Чарнобыльскай катастрофы», абудзіла палітычную актыўнасць многіх. Аднак у апошнія гады пытанне Чарнобылю паціху заціраецца ў свядомасці людзей, становіцца для большасці абстрактным, і народ пачынае жыць, як быццам бы нічога не было, а калі не было, то, значыць, і на жыццё не ўплывае.

**Супрацоўнік спецпрыёмніка-размеркавальніка на вул. Акрэсціна:**

Як і на ўсіх, Чарнобыль паўплываў на мяне не ў лепшы бок. Мы ўсе ведаем гэтыя лічбы, дадзеныя. Я сам ліквідатар, непасрэдны ўдзельнік гэтых падзеяў. Тады пра здароўе ніхто не думаў. Ставіліся да гэтага, як да звычайнай працы. А зараз маем наступствы, з якімі не ведаем, што рабіць.

**Мечыслаў ГРЫБ, былы старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі:**

Мяркую, што Беларусь была б значна іншай. Па-першае, даволі вялікая тэрыторыя нашай краіны сёння знаходзіцца ў забруджаным стане. Гэтыя мясціны – адны з самых прыгожых, самых лепшых у Беларусі. Там былі добрыя, урадлівыя землі. Там жылі працавітыя людзі, якія вымушаныя былі з'ехаць, пакінуць свае хаты. Мы вельмі шмат страцілі, каб не адчуваць гэтага.

Я перакананы, што зараз Чарнобыль тычыцца не толькі тых забруджаных мясцін, ці тых радыяцыйных плямаў, якія выяўленыя ў Мінскай, Гарадзенскай абласцях, а ўсёй Беларусі. Сёння мы ўсе чарнобыльцы, бо я ўпэўнены, што Чарнобыль уплывае на ўсіх нас. Праз прадукты, праз людзей, якія пераехалі адтуль, праз хваробы, якія з'явіліся. Гэтае нябачнае зло, што звязана з катастрофай, распаўсюджваецца па ўсёй краіне.

Разам з вясной у Беларусі ажывае гэты жахлівы вобраз, чорны ўспамін. І як не спыніць надыход вясны, так і не спыніцца закладзенае Чарнобылем Багаты вопыт мінулага не можа дапамагчы нам у асэнсаванні і вырашэнні наступстваў гэтай катастрофы. Чарнобыль прынёс новую рэчаіснасць і новыя праблемы. І нават час зусім іншы пасля гэтай катастрофы. Калі нам кажуць пра дзесяць, дваццаць тысячаў гадоў распаду – дзе знайсці сябе ў гэтым часе? Чым, у такім выпадку, ёсць тваё чалавечае жыццё? Што такое здольнасць разумець гэта? І так бясконца...

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



## СУББОТА • 4 МАЯ

**07.00, 09.00, 15.00, 19.00** Новости.
**07.10** Сериал «Без семьи». 3-я серия.
**08.05** Познавательный сериал «Пятое измерение».
**09.10** Экран индийского кино. **«КТО Я ДЛЯ ТЕБЯ»**. 1-я и 2-я серии.
**12.20** Сад мечты. Передача для дачников.
**12.45** Королевская охота.
**13.15** Здоровье. Тележурнал.
**13.40** Приключенческий сериал «Шака Зулу» (США - Италия). Фильм 1-й «Цитадель». Часть 2-я.
**14.25** «Владыко». Док. фильм о Митрополите Минском и Слуцком, Патриаршем Экзархе всея Беларуси Филарете.
**15.20** Детективный сериал «Комиссар Шимански» (Германия).
**17.00** Белорусская двадцатка.
**17.25** «Пять чудес».
**18.00** Волшебная шкатулка «Союзмультфильма». «Золушка», «Песенка радости».
**18.35** Из достоверных источников.
**19.25** «На перекрестках Европы». Национальный телефестиваль песни.
**20.10** Сериал «VIP» (США).
**21.00** Панорама недели.
**22.00** Спорт-курьер.
**22.10** «Одиссея». Сериал (США).
**22.50** В.Алентова и В.Меньшов в мелодраме **«ВРЕМЯ ДЛЯ РАЗМЫШЛЕНИЙ»**.
**23.55** Праздничное богослужение на Воскресение Христово. Трансляция из Минского кафедрального Свята-Духова собора.

---

**07.00** Новости.
**07.10** Следствие ведет Колобков.
**07.30, 15.40** «Ералаш».
**07.45** Слово пастыря. Митрополит Кирилл.
**08.00** Утренняя звезда.
**08.50** Библиомания.
**09.00, 14.00** Новости (с субтитрами).
**09.10** Смехопанорама Евгения Петросяна.
**09.45** Смак.
**10.05** В мире животных.
**10.45** Л.Полищук и В.Тихонов в фильме **«ГОРОДСКИЕ ПОДРОБНОСТИ»**. 1-я серия.
**12.10** Здоровье.
**12.50** «Серебряный шар». Владимир Маяковский. Ведущий - В.Вульф.
**13.30** Дисней-клуб. «Утиные истории».
**14.10** Фильм **«ТРИ ТОПОЛЯ НА ПЛЮЩИХЕ»**.
Красивая деревенская женщина Нюра собралась в Москву. Она собиралась продать мясо на рынке. Ничего интересного. На вокзале она села в такси и очень переживала о том, как бы не переплатить. Но водитель оказался на редкость добродушным и отзывчивым: выключил счетчик. А еще они сидели в такси и пели песню "Опустела без тебя земля".
Режиссер: Татьяна Лиознова.
В ролях: Т.Доронина, О.Ефремов, В.Шалевич, А.Румянцева, Н.Смирнов, В.Телегина, СССР, 1967 г.
**16.00** Живая природа. «Голубая бездна».
**17.00** Вечерние новости.
**17.10** Большая стирка.
**18.05** Анна Каменкова в фильме **«ТЫ ЕСТЬ...»**.
**20.00** Время.
**20.30** Фильм **«КТО, ЕСЛИ НЕ МЫ»**.
Двое мальчишек - Змей и Толясик - ездят в Москву "на заработки". Один играет на аккордеоне, другой поет. Но однажды их денежки отбирают хулиганы. Поэтому пацаны решают найти другой способ обогащения. Они грабят универмаг. Это новый фильм Валерия Приемыхова, многолетнего исследователя детской темы в кинематографе, когда-то начатой им вместе с режиссером Динарой Асановой.
Режиссер: Валерий Приемыхов.
В ролях: В.Приемыхов, А.Смолянинов, Ж.Крайнов, Т.Догилева, А.Филозов, С.Фурман, И.Охлобыстин, Россия, 1998 г.
**22.15** Пасха Христова. Трансляция богослужения из Храма Христа Спасителя.

---

**07.05** Приключенческий сериал «Повелитель зверей» (Канада - США).
**08.00** «Военная программа» Александра Сладкова.
**08.30** Золотой ключ.
**08.50** Здоровье и жизнь.
**09.25** «Сто к одному». Телеигра.
**10.20** «Наука и техника». Научно-познавательная программа.
**11.25** «Традиционный сбор». «Гараж».
**13.00, 19.00** Вести.
**13.20** В.Гафт, Л.Ахеджакова, А.Мягков, В.Невинный и С.Немоляева в комедии Э.Рязанова **«ГАРАЖ»**. 1979 г.
**15.00** Футбол. Чемпионат России. «Спартак» (Москва) - «Уралан» (Элиста). Прямая трансляция со стадиона Лужники.
**17.00** Моя семья.
**17.55** Аншлаг.
**19.25** «Мне 25». Концертная программа Николая Баскова.
**22.15** «Праздник Великой Пасхи». Прямая трансляция Торжественного богослужения из Храма Христа Спасителя.

---

**06.55** Анонс дня.
**07.00, 09.00, 11.00, 15.00, 18.00** Сегодня.
**07.10** **«ЦИРК»**. Кинокомедия.
**09.15** «Агент национальной безопасности». Сериал.
**10.25** «Квартирный вопрос». Превращение «сталинской» квартиры.
**11.20** **«СЕМНАДЦАТЬ МГНОВЕНИЙ ВЕСНЫ»**. 4-я серия.
**12.55** «Очная ставка». «Завещание».
**13.30** Путешествия натуралиста.
**14.05** Своя игра.
**15.25** Лев Лещенко, Лариса Долина, Иосиф Кобзон, Николай Басков и другие. «Звездный вечер» поэта А.Дементьева.
**18.35** Евгений Леонов. Последнее интервью.
**19.00** Евгений Леонов в грустной комедии **«ОСЕННИЙ МАРАФОН»**.
**21.00** Фильм **«ИДЕАЛЬНЫЙ МИР»**.
Бутч Хейнц (Кевин Костнер) совершил побег из тюрьмы вместе с "попутчиком" - одним из "отморозков". По пути они взяли в заложники мальчика Филиппа. На поимку беглых заключенных отправился техасский рейнджер Ред Гарнет (Клинт Иствуд), Салли Гербер (Лаура Дерн), специалист по психологии заключенных, направленная губернатором, и агент ФБР. Беглецы не испытывали никакой симпатии друг к другу. Когда же "отморозок" попытался "позабавиться" с мальчиком, то получил от Бутча пулю.
США, 1993 г.
**00.00** Все звезды Чемпионата мира по футболу.
**00.35** Гордон.

---

**09.00** Программа передач.
**09.15** «Дикие животные». «Выбираем хвост».
**09.40** «Чудотворец». Мультфильм (Великобритания, 2000). Часть 3-я.
**10.10** Серафим. Несколько дней из жизни монаха». Док. фильм. Режиссер Н.Князев.
**10.40** «Святыни России». Концерт в Большом театре России.
**11.20** Бабушкины рецепты.
**11.35** 1001 рассказ о кино.
**11.55** **«ДЭВИД КОППЕРФИЛД»**.
Худ. фильм. Часть 1-я.
По одноименному роману Ч.Диккенса. Оставшись сиротой, маленький Дэвид находит приют в доме своей тетушки. Он получает достойное образование и решает стать литератором. Но судьба постоянно испытывает Дэвида на прочность...
Режиссер С.Кертис.
В ролях: А.Армстронг, Э.Фопс, Б.Хоскинс, Т.Барлоу, Великобритания, 1999 г.
**13.30, 21.30** Новости культуры.
**13.45** Графоман.
**14.10** «Поморская быль». Мультфильм.
**14.25** Тайна Грааля.
**14.55** «Набоков. Машенька». Телеспектакль Театральной компании С.Виноградова.
**16.30** «Парижский журнал». «Строгановы. Русско-французский менуэт».
**17.00** «Исторические концерты». Баллады Ф.Шопена. Исполняет К.Цимерман.
**17.35** «Сферы» с Иннокентием Ивановым.
**18.15** «В вашем доме». Александра Пахмутова.
**18.55** **«ЖЕНЩИНЫ»**. Худ. фильм.
О трёх одиноких женщинах - работницах мебельной фабрики, их нелегкой судьбе.
Режиссёр: Павел Любимов.
В ролях: И.Макарова, Г.Яцкина, Н.Сазонова, В.Соломин и др., к/ст. им. М.Горького, 1965 г.
**20.35** «Новая театральная гостиная». «Табакерка».
**21.50** **«ЦВЕТЫ ЗАПОЗДАЛЫЕ»**. Худ. фильм («Мосфильм», 1969). Режиссер А.Роом.
**23.25** «Вечера с Еленой Камбуровой». Передача 4-я.

### 8 канал

**15.00** Фильм-сказка **«ВАРВАРА КРАСА ДЛИННАЯ КОСА»**.
**16.30** «Простой вопрос».
**16.40** Мультфильмы 50-х... «Молодильные яблоки».
**17.40** Гурман-клуб.
**18.00** Худ. фильм **«ВОКЗАЛ ДЛЯ ДВОИХ»**.



**20.20** К-видео «Топ-8».
**20.25** «Ракурс».
**20.45** «Вечарніца».
**21.00** Телемагазин.
**21.15** Худ. фильм **«ГОЛЛИВУДСКАЯ ПРИНЦЕССА»**.

### СТВ

**05.30** Каспер Ван Дьен в боевике **«ОХОТНИК»**.
**07.15** «В гостях у Тофика».
**07.30** Мультсериалы: «Русалочка», «Тик-герой», «Джин-Джин из страны Пандаленд», «Гриффины».
**10.00** «Ремонт».
**10.15** «Автопанорама».
**10.35** «Завтрак с Ликой».
**11.00** «Канал истории»: «МИ-6». Док. фильм.
**12.00** «Мир спорта».
**12.30** Лирическая комедия **«МИМИНО»**.
В далеком горном селении живет летчик Валико. Работает он на грузовых перевозках, но мечтает о штурвале большого лайнера, и уезжает в Москву, повышать квалификацию. Но не так просто добиться исполнения своих желаний, и в большом городе другие законы...
Режиссер: Г.Данелия.
В ролях: В.Кикабидзе, Ф.Мкртчян, Е.Проклова, Е.Леонов, М.Дюжева, «Мосфильм», 1977 г.
**14.35** «Очевидец».
**15.05** «Этикет».
**15.10** «Портрет в интерьере».
**15.25** «Радиоточка».
**15.45** «Экзотика».
**16.00** «Человек-паук». Мультсериал.
**17.00** Информационно-публицистическая программа «Вместе».
**17.20** «Профессия, которую ты выбираешь».
**17.30** «Три хита в «Алькатрасе».
**18.00** «Час пик» с Григорием Новиковым.
**19.00** Жан-Клод Ван Дамм в драматическом боевике **«ИНФЕРНО»**.
**20.55** Фильм **«ГОНЩИК»**.
Остросюжетный фильм из жизни элиты мира автогонок. В суровой борьбе опытного Бо Бранденберга и дебютанта Джимми Блая у молодого гонщика стали сдавать нервы. Его тренер Карл Генри обращается за помощью к своему старому приятелю Джо Танто, бывшему гонщику, чтобы тот сумел передать свои знания и оказал психологическую поддержку Джимми...
Режиссер: Ренни Харлин.
В ролях: Сильвестр Сталлоне, Берт Рейнолдс, Роберт Шон Леонард, Кип Пардью, США, 2001 г.
**23.30** «Мутанты Икс». Сериал.
**00.30** «Новости мировой шоу-индустрии».
**01.00** «М 1». Музыкальная программа.

## ВОСКРЕСЕНЬЕ • 5 МАЯ

**07.00, 09.00, 15.00** Новости.
**07.10** Сериал «Без семьи». 4-я серия, заключительная.
**08.05** «Агромир». Информационно-аналитическая программа.
**08.30** Арсенал. Программа об армии.
**09.10** Слово Митрополита Филарета на праздник Воскресения Христова.
**09.20** «Пасхальные колокола» композитора Л.Шлег.
**09.30** Мультиклуб.
**10.00** Фильм - сказка. **«КОРОЛЕВСТВО КРИВЫХ ЗЕРКАЛ»** (к/ст. им. М.Горького).
**11.15** «Всё нормально, мама!» Развлекательная программа.
**11.55** Телевитамин.
**12.25** «Одиссея». Сериал (США).
**13.10** «Судьба человека». Семья Тумановых.
**13.35** «Пой, душа!» Вокально-хореографический ансамбль народной музыки и песни «Траецкія музыкі» (г.Староборисов).
**14.05** Існасць. Праздничный выпуск.
**14.30** «Наше наследие». Шедевры Национального художественного музея Беларуси. Часть 3-я.
**14.45** «И другие официальные лица».
**15.20** Мир и мы.
**15.45** М.Терехова и М.Боярский в комедии **«СОБАКА НА СЕНЕ»** («Ленфильм»). 1-я и 2-я серии.
**17.55** «Встреча в Троицком» с Александром Домарацким.
**18.25** «Время местное». Репортажи из провинции.
**18.55** Планета «АРТ».
**19.25** Телебарометр. Прогноз погоды.
**19.45** Энциклопедия белорусского спорта. Спортивная гимнастика.
**20.00** Панорама аналитическая.
**20.40** Спорт-курьер.
**20.50** Н.Рыбников и Н.Иванова в мелодраме **«ВЕСНА НА ЗАРЕЧНОЙ УЛИЦЕ»** (Одесская к/ст).
**22.25** Телевизионный Дом кино. Новости белорусского кино.
**22.55** Детективный сериал «Жюли Леско» (Франция).
**00.25** Док. сериал «Пары и дуэты». Заключительная серия.

---

**07.00** Новости.
**07.10** Армейский магазин.
**07.40** Дисней-клуб. «Тимон и Пумба».
**08.05** Играй, гармонь любимая!
**08.50** Библиомания.
**09.00, 14.00** Новости (с субтитрами).
**09.10** «Непутевые заметки» с Дм.Крыловым.
**09.30** Пока все дома.
**10.05** Клуб путешественников.
**10.45** «Городские подробности». 2-я серия.
**12.15** Юмористическая программа «Сами с усами».
**12.50** Умницы и умники.
**13.15** Сокровища Кремля.
**13.30** Дисней-клуб. «Микки Маус и его друзья».
**14.10** Комедия **«КРЕПКИЙ ОРЕШЕК»**.
После госпиталя лейтенант Грозных назначается командиром женского отряда противовоздушной обороны. Влюбленная в него Раечка Орешкина, мечтая о доблестном поступке, попадает с лейтенантом в тыл врага...
Режиссер: Теодор Вульфович.
В ролях: Н.Румянцева, В.Соломин, В.Липпарт, В.Абрамов, СССР, 1967 г.
**15.45** «Как праздновать Пасху». Спецрепортаж.
**16.05** Е.Петросян, Е.Степаненко, Я.Арлазоров, М.Галкин в концертной программе «Кубок юмора».
**17.00** Вечерние новости.
**17.20** Продолжение концертной программы «Кубок юмора».
**19.25** И.Купченко, О.Янковский в фильме **«ПРИХОДИ НА МЕНЯ ПОСМОТРЕТЬ»**.
**21.30** Ночное «Время».
**21.50** Фильм **«ВОРОВКА»**.
**23.45** Фильм **«НЕЗРИМЫЙ ПУТЕШЕСТВЕННИК»**.
Историческая драма по одноименной пьесе Игоря Таланкина. Таганрог, декабрьские дни 1825 года. 48-летний император (Лановой) проводит дни в раздумьях. Царь пытается осмыслить прожитую жизнь и видит, как много из задуманного не сделано. Вступая на престол 11 марта 1801 года, после смерти Павла I, Александр был увлечен демократическими проектами, намеревался ввести в России конституцию...
Режиссеры: И.Таланкин, Д.Таланкин.
В ролях: В.Лановой, А.Демидова, А.Ромашин, Г.Жженов, В.Гостюхин, С.Арцыбашев, С.Гармаш, Россия, 1998 г.

---

**07.50** Русское лото.
**08.40** Всероссийская лотерея «ТВ Бинго шоу».
**09.20** Доброе утро, страна!
**09.55** Сам себе режиссер.
**10.55** «Городок». Дайджест. Развлекательная программа.
**11.30** Е.Евстигнеев и Л.Смирнова в комедии **«ДОБРО ПОЖАЛОВАТЬ, ИЛИ ПОСТОРОННИМ ВХОД ВОСПРЕЩЕН»**. 1964 г.
**13.00, 19.00** Вести.
**13.20** Поздравление Патриарха Московского и Всея Руси Алексия II.
**13.25** Парламентский час.
**14.10** Диалоги о животных.
**15.10** Вокруг света.
**16.00** ТВ Бинго новости.
**16.05** «Комната смеха». Юмористическая программа.
**17.05** А.Демьяненко, Н.Варлей и В.Этуш в комедии Л.Гайдая **«КАВКАЗСКАЯ ПЛЕННИЦА, ИЛИ НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ ШУРИКА»**.
**18.45** «Киноистории» Глеба Скороходова.
**19.25** «Бенефис Клары Новиковой».
**22.55** А.Панкратов-Черный, А.Анкудинов, Л.Удовиченко и С.Маковецкий в комедии **«РЕБЕНОК К НОЯБРЮ»**. 1992 г.
**00.50** Спорт за неделю.

---

**06.55** Анонс дня.
**07.00, 09.00, 11.00, 15.00** Сегодня.
**07.10** **«ПОДКИДЫШ»**. Кинокомедия.
**09.15** Л.Вайкуле, В.Меладзе и И.Аллегрова в праздничной программе Оксаны Пушкиной «Весенние фантазии».
**10.25** С.Немоляева и А.Лазарев в программе «Растительная жизнь» с Павлом Лобковым.
**11.20** **«СЕМНАДЦАТЬ МГНОВЕНИЙ ВЕСНЫ»**. 5-я серия.
**12.45** «Любовь или деньги?» «Продолжение следует...» с Юлией Меньшовой.
**13.50** Вкусные истории.
**14.05** Своя игра.
**15.25** «Я и моя собака». Дог-шоу.
**16.15** Шоу Елены Степаненко.
**17.20** Леонид Куравлев и Татьяна Пельтцер в комедии **«ТЫ - МНЕ, Я - ТЕБЕ»**.
**19.15** Боевик **«ЛЬВИНАЯ ДОЛЯ»**.
Когда-то они были специальным подразделением ФСБ, выполнявшим особо важные задания. Но после одной неудачной операции - был похищен портативный ядерный заряд - они были уволены со службы и едва избежали тюрьмы. Однако все незаконченные дела рано или поздно начинают создавать большие проблемы - "потерянный" заряд оказывается в руках у бандитов...
Режиссер: Александр Муратов
В ролях: Н.Караченцов, Д.Певцов, Ю.Беляев, Ч.Хаматова и Д.Марьянов, Россия, 2002 г.
**21.25** Роберт Де Ниро и Сильвестр Сталлоне в детективе **«ПОЛИЦЕЙСКИЕ»** (США).
**23.45** Сериал «Звездные врата». «Небесный шар» (США).
**00.45** Журнал Лиги чемпионов.

---

**09.00** Программа передач.
**09.10** В Начале было Слово...
**09.50** «Чудотворец». Мультфильм (Великобритания, 2000). Часть 4-я.
**10.05** «Перепутовы острова». Телеигра для школьников.
**10.30** «Раскаявшийся волк и другие народные сказки». Телеспектакль.
**11.20** 1001 рассказ о кино.
**11.35** Недлинные истории.
**11.55** **«ДЭВИД КОППЕРФИЛД»**. Худ. фильм (Великобритания, 1999). Режиссер С.Кёртис. Часть 2-я.
**13.30, 21.30** Новости культуры.
**13.45** Магия кино.
**14.10** «Шедевры мирового музыкального театра». А.Бородин. Опера «Князь Игорь». Дирижер В.Гергиев.
**17.35** Тем временем.
**18.15** Дом актера. «Друзья встречаются вновь».
**18.55** **«ЗА СПИЧКАМИ»**. Худ. фильм («Мосфильм», 1980). Режиссер Л.Гайдай.
**20.30** Личные воспоминания о большой жизни.
**20.35** «Гость в актерской студии». Стенли Донен.
**21.55** **«СЕМЬ НЕВЕСТ ДЛЯ СЕМЕРЫХ БРАТЬЕВ»**. Худ. фильм.
Классический мюзикл, удостоенный премии "Оскар" в номинации "Лучшая музыка". Решение Адама обзавестись женой побудило его братьев последовать его примеру. Адам, начитавшись древних легенд, предлагает братьям весьма оригинальный способ приобретения подруги жизни - похищение. И вот шестеро молодых мужчин отправляются в город...
Режиссер: Стенли Донен.
В ролях: Джейн Пауэлл, Ховард Кил, Джефф Ричардс, Расс Тамблин и др., США, 1954 г.
**23.30** Концертино.

### 8 канал

**15.00** Комедия **«ЖЕНИТЬБА БАЛЬЗАМИНОВА»**.
**16.30** «Европа сегодня».
**17.00** Мультфильм «Это- Пасха».
**17.15** «Иешуа. Волны света, победившие тьму».
**18.05** «Свет души».
**18.15** Звезды отечественного кино в худ. фильме **«ТОТ САМЫЙ МЮНХАУЗЕН»**.
**20.45** «Вечарніца».
**21.00** В баре «У Олега».
**21.45** Худ. фильм **«МОСКВА СЛЕЗАМ НЕ ВЕРИТ»**.

### СТВ

**05.30** Жан-Клод Ван Дамм в драматическом боевике **«ИНФЕРНО»**.
**07.00** «1/52». Спортивное обозрение.
**07.15** «В гостях у Тофика».
**07.30** Мультсериалы: «Русалочка», «Тик-герой», «Джин-Джин из страны Пандаленд».
**09.00** «Тебе, Беларусь, посвящаю». Концерт.
**10.00** «Час пик» с Григорием Новиковым.
**11.00** «Три хита в «Алькатрасе».
**11.30** «Экзотика».
**11.45** «Завтрак с Ликой».
**12.05** «Лучшие клипы мира».
**12.30** Мюзикл **«ПАСХАЛЬНЫЙ ПАРАД»**.
Дон Хьюз танцевал дуэтом с Надин Хэйл. Однако накануне ежегодного пасхального шоу Надин объявила, что начинает сольную карьеру. Хьюз взял себе новую партнершу - Ханну. Их выступление производит настоящий фурор, и Дон получает приглашение на знаменитое шоу Зигфельда. Но Хьюз отказывается от приглашения, потому что у Зигфельда танцует и Надин...
Режиссер: Чарлз Уолтерс.
В ролях: Джуди Гарлэнд, Фред Астер, Питер Лоуфорд, Энн Миллер, США, 1948 г.
**14.40** «1/52». Спортивное обозрение.
**14.55** «Очевидец».
**15.25** «Агентство». Комедийный сериал.
**16.00** «Человек-паук». Мультсериал.
**16.50** «Граница. Таежный роман». Сериал.
**18.00** «Здравствуйте, доктор!».
**18.10** «Дискавери» на СТВ.
**18.25** «Арт-экспресс». Культурная жизнь столицы.
**18.45** Информационно-публицистическая программа «Вместе».
**19.00** «Портрет в интерьере».
**19.15** «Автопанорама».
**19.30** «168 часов Минска».
**20.30** «Этикет».
**21.35** «Добро пожаловаться».
**20.40** «Пока горит свеча...».
**21.10** Романтическая комедия **«ОДИН ПРЕКРАСНЫЙ ДЕНЬ»**.
Архитектор Мелани Паркер и журналист Джек Тэйлор должны были отвести своих детей в школу. Но опоздали: на дверях школы висело объявление, что все дети отправились на экскурсию. Пришлось обоим родителям по ходу дела менять свои планы. А поскольку дети перепутали мобильные телефоны своих мамы и папы, то взрослым понадобилось встретиться еще раз, чтобы обменяться аппаратами. После чего Мелани и Джек почувствовали, что не только их детям хочется общаться друг с другом...
Режиссер: Майкл Хоффман.
В ролях: Мишель Пфайффер, Джордж Клуни, Мэй Уитмэн, Алекс Д.Линц, США, 1996 г.
**23.45** «Секретные материалы». Сериал.
**00.45** «Альфред Хичкок представляет». Сериал.
**01.15** Ночной музыкальный канал.
**02.25** «М 1». Музыкальная программа.

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Квадратныя метры для сірот

*Аб непатрэбных уласным бацькам дзецях клапоціцца дзяржава. Бывае, што гэты клопат даволі нязграбны. Прычына ў першую чаргу ў недасканалым заканадаўстве і адрыве яго ад рэальнага жыцця. З Ксеніяй Антонавай – загадчыцай сектару па ахове дзяцінства ўпраўлення адукацыі і па справах моладзі адміністрацыі Фрунзенскага раёну Мінску карэспандэнтка НАШАЙ СВАБОДЫ гутарыць толькі пра адну праблему: дзе жыць сіраце?*

***– Вядома, што ў нашай краіне сірот з кожным годам становіцца ўсё болей. Звычайна гэта сацыяльныя сіроты – дзеці, бацькі якіх пазбаўлены бацькоўскіх правоў. Колькі ў вас на ўліку ўсяго сірот і сацыяльных, у прыватнасці?***

– У нас на ўліку 700 дзяцей-сірот. У доме малюткі і ў дзіцячым доме знаходзіцца па 100 дзетак, а 480 – у апякунскіх сем'ях. Круглых сірот у раёне 90, а астатнія – сацыяльныя.

***– Пазбаўленне бацькоўскіх правоў для асацыяльных і амаральных людзей як падарунак: ніякага клопату аб дзіцяці. Пэўны час дзяржава праз інтэрнат яго корміць, апранае, дае адукацыю. Вось дзіця скончыла 9 класаў і яго ўладкоўваць у якое-небудзь вучылішча. Дзе яму жыць?***

– Згодна з законам «Аб правах дзіцяці», за дзіцем замацоўваецца жыллёвая плошча ў кватэры, з якой яно выбывала ў інтэрнат. Па Грамадзянскім кодэксе з 14 год дзіця мае права жыць самастойна. Сірата – пад кантролем органу апекі. А цяпер уявіце. Хлопец знаходзіцца ў інтэрнаце – там для ўсіх дзяцей створаны аднолькавыя ўмовы (не будзем зараз абмяркоўваць, добра гэта ці дрэнна). У ПТВ у групе можа быць толькі адзін хлопец з інтэрнату. Як ён будзе сябе пачуваць сярод дзяцей з сем'яў? Мала таго, што ў час заняткаў цярпіць ад дрэннага да сябе стаўлення, дык потым яшчэ і ў інтэрнаце... Там жывуць іншагароднія дзеці, але яны – з сем'яў. Таму яны лепш апрануты, у іх ёсць кішэнныя грошы. А што ў дзіцяці з інтэрнату? Многія з іх кідаюць вучобу не таму, што не хочуць атрымаць спецыяльнасць, а таму, што не вытрымліваюць адносін да сябе з боку аднагодкаў. У гэтай сітуацыі дзіця падумае: навошта яму цярпець здзекі ў студэнцкім інтэрнаце, калі за ім замацавана жыллё ў трохпакаёвай кватэры, у якой жыве яго маці?

***– Але ж звычайна такія маці ўжо і не памятаюць, што ў іх ёсць дзеці, па сутнасці, гэта – чужыя людзі.***

– На жаль, гэта так. І калі дзеці любяць сваіх бацькоў і такіх, то бацькам яны звычайна не патрэбны. Вось вам і прыклад. Маці Олі К. была пазбаўлена бацькоўскіх правоў, калі дзяўчыне было толькі пяць год. Дзяўчынка выхоўвалася ў інтэрнаце. Пад момант заканчэння ПТВ дзяўчыну трэба некуды пасяліць. За ёй замацавана жылая плошча ў аднапакаёвай кватэры маці. Але тая і на парог не пускае дачку. Кватэра ператворана ў прытон, жанчына страціла чалавечае аблічча, не працуе, п'е. Што можна зрабіць? Па рашэнні суду былую маці можна прымусіць пусціць у кватэру дачку. Але фактычна яна гэтага не зробіць. Выселіць жанчыну можна толькі, калі будзе даказана немагчымасць сумеснага пражывання гэтых людзей у адной кватэры. Але калі дзяўчыну не пусцяць у кватэру, то і такой сітуацыі не будзе. Застаецца толькі адно – даць дзяўчыне сацыяльнае жыллё.


Фота Ул. ШЛАПАКА

***– Такім чынам, лепш за ўсіх у гэтым жыцці ўладкавалася былая маці. І дзіця не гадавала, і за кватэру не плаціць, і мае шмат правоў. Ну, а калі былыя бацькі не чыняць перашкод і дзеці могуць засяліцца ў кватэру да бацькоў-алкаголікаў? Які іх лёс?***

– Пры такім раскладзе яны звычайна паўтараюць лёс бацькоў. Не маючы сіл супрацьдзейнічаць сацыяльнаму асяроддзю, яны будуць зацягнуты ў багну п'янства і дармаедства. Нават калі сірата атрымлівае сацыяльнае жыллё, не маючы неабходнага жыццёвага вопыту, не сагрэты чалавечай ласкай, ён таксама нярэдка становіцца ахвярай махляроў. Таму і жыллё з разраду бясплатнага пераведзена ў сацыяльнае.

***– Ксенія Васільеўна, а ў чым адрозненне дзяржаўнага жылля ад сацыяльнага?***

– Дзяржаўнае можна было прыватызаваць, абмяняць, прадаць. У сацыяльным можна толькі жыць. Больш такіх гісторый, як з Мікалаем Н., здарыцца не можа. А было вось што. Хлопец атрымаў аднапакаёвую кватэру, якая тады мела статус дзяржаўнай. Вакол яго пачало збірацца шмат людзей, яго частавалі, з ім «сябравалі», давалі нейкія парады. І ў адзін дзень Мікалай застаўся без кватэры. Цяпер ён вымушаны жыць у аднапакаёвай кватэры разам з былой маці – п'яніцай. Хоць Мікалай на момант гэтых падзей і быў паўналетнім, а значыць, фармальна клопат аб ім – ужо не наша кампетэнцыя, мы ўсё ж такі намагаліся вярнуць хлопцу кватэру. Але ж і махляры не лыкам шытыя. Яны амаль што за месяц прадавалі-перапрадавалі гэтую кватэру разоў пяць, і ўжо немагчыма, як кажуць юрысты, вярнуць бакі ў першапачатковы стан. Вось каб такіх гісторый не было, акрамя ўвядзення «сацыяльных спісаў», таксама змяніўся статус жылля.

***– «Сацыяльныя» спісы ў нас з'явіліся толькі ў 1997 годзе, а што рабіць дзецям, бацькоў якіх пазбавілі бацькоўскіх правоў раней і кватэры ўжо не захаваліся? Ці ёсць у вашым раёне такія прыклады?***

– Прыклады, безумоўна, ёсць. Нават у той час, калі існавалі «сацыяльныя« спісы. Тады яшчэ праспект Машэрава быў у нашым раёне, і там мела кватэру сям'я, у якой было 5 дзяцей. Па рашэнні суду іх забралі ў інтэрнат. Далей пачынаецца самае цікавае. Закон замацоўвае жыллё за сацыяльнымі сіротамі. Здавалася б, гэтага дастаткова. Але інтэрнаты заўсёды патрабуюць адпаведнае рашэнне раённай адміністрацыі. І вось пакуль афармляліся дакументы, пакуль чакалі паседжання, інфармацыя аб кватэры, як той казаў, трапіла «не ў тыя рукі». Разумееце, у выніку гэтых бюракратычных працэдур вельмі шмат людзей маюць доступ да звестак. Нельга гарантаваць, што ўсе яны аднолькава сумленныя. І вось, пакуль копія рашэння «ішла» ва ўсе інстанцыі, кватэра была прададзена.

Безумоўна, дзеці, што трапілі ў такое становішча, атрымаюць сацыяльнае жыллё, і гэтыя пяць дзяцей, якія адзін за адным пачалі выходзіць з інтэрнату, не выключэнне. На жаль, бацькі іх канчаткова дэградавалі. Не ведаю, як у іншых раёнах, а ў нашым за ўсе 19 год, што тут працую, не было такога, каб сірата застаўся без жылля.

***– На маю, думку, яно і лепей, што жыллё не захавалася. У кватэры на праспекце Машэрава ці ў іншым месцы – бацькі гэтых дзяцей усё роўна б дэградавалі і пацягнулі за сабой дзяцей. А так у іх ёсць хоць маленькі шанц наладзіць сваё жыццё.***

– Так, шанц ёсць. На шчасце, і ў нашай практыцы такое было. Гадоў, можа, 10 назад да нас прыйшоў хлопец, які ўжо адслужыў у войску. Казаў, што прападзе, калі вернецца жыць да маці, якая ў свой час была пазбаўлена бацькоўскіх правоў. І выканкам пайшоў насустрач, выдзеліў кватэру. Цяпер у яго ёсць свая сям'я, двое дзетак. Ён атрымаў вышэйшую адукацыю, працуе, добра зарабляе.

***– Ксенія Васільеўна, плануецца, што ў Жыллёвы кодэкс будуць уносіцца змены і дапаўненні. У вас ёсць якія-небудзь прапановы?***

– Вядома, ёсць. І мы нават можам іх з вамі абмеркаваць, але якое практычнае рашэнне? На жаль, за ўсе гады маёй працы ні са мной, ні з маімі калегамі ніхто з тых, хто распрацоўвае і прымае законы, не раіцца ні па якіх пытаннях. Такім чынам, мы жывем на зямлі, а законы прымаюцца дзесьці вышэй.

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**

# Найлепшыя мужчыны выходзяць з інтэрнатаў

*Па статыстыцы Мінгарвыканкаму, Мінск – перанаселены горад, таму жыллёвыя пытанні тут найвастрэйшыя. Па звестках Мінбудархітэктуры, у агульнарэспубліканскай чарзе на атрыманне ўласнай кватэры стаяць амаль 600 тысяч сем'яў, з якіх больш за 140 тысяч чакаюць кватэры даўжэй за 10 гадоў. Пры гэтым дынаміка здачы кватэр выглядае адмоўна: у 1999 годзе – 39 тыс. кватэр, у 2000-м – 24 тысячы, у 2001-м – каля 20 тысяч.*

Таму для іншагародніх якраз інтэрнат – добрае выйсце з гэтай сітуацыі: тут і прапіска, і жыллёвая плошча. Тэндэнцыя ператварэння халасцяцкіх інтэрнатаў у сямейныя сёння – норма, бо нярэдка, прарабіўшы ўсё жыццё, чалавек так і не ўбачыць ні ордэра на кватэру, ні хоць бы перспектывы яе набыцця.

Па вялікім рахунку, пры агучванні слова «інтэрнат» у людзей узнікаюць звычайна тыповыя асацыяцыі: злосны камендант жаночага полу, заўсёды шмат народу, адна кухня на ўсіх, прусакі, няспынныя сваркі, а галоўнае – пра вашае прыватнае жыццё ведаюць усе. Праўда, апісанае вышэй хутчэй нагадвае камуналкі, якія дажываюць сваё, але тыпаж сучасных інтэрнатаў збольшага застаўся той самы.

У высотных інтэрнатаўскіх будынках за кіраўніка – дырэктар, які мае свой невялікі штат працаўнікоў і адначасова выконвае абавязкі інжынера, а загадчыца гаспадаркі займаецца пытаннямі засялення і прапіскі; у невялікіх жа інтэрнатах на гэтай пасадзе – камендант. Сямейныя інтэрнаты каштоўныя сваёй блокавай сістэмай, дзе ў пакоі ёсць і кухня, і санвузел, але атрымаць такую «ільготу» складана: звычайна па знаёмстве ці за надзвычайную грашовую аплату. Гэта хутчэй тычыцца так званых «чужых», якіх па законе дазваляецца засяляць у інтэрнат толькі ў пяціпрацэнтнай колькасці. А ўвогуле ўмовы пражывання і антураж інтэрнату залежаць ад прадпрыемства ці заводу, да якога адносіцца інтэрнат.

У гутарцы з дырэктарам інтэрнату № 9, што па адрасе Кашавога, 30, – ён належыць трактарнаму заводу і ў сваім раёне адзін з прэстыжных, – акрэсліліся некаторыя нюансы інтэрнатаўскага жыцця. Знешні выгляд інтэрнату сапраўды прывабны: ён нагадвае шыкоўны гатэль, на 12 паверхах якога месціцца 320 жылых пакояў, бібліятэка і актавая заля.

Часовае жыццё ў інтэрнаце нярэдка ператвараецца ў сталае. У выніку толькі ў гэтым інтэрнаце – дзевяць нямоглых пенсіянераў, якім няма месца і ў доме састарэлых, а выгнаць рука не падымаецца. Калі раней сярэдні век інтэрнатаўскіх жыхароў сягаў 25 гадоў, то цяпер – ужо 35–45. За год сыходзяць на сваю кватэру ўсяго 3–4 сям'і, таму склад жыхароў-суседзяў амаль нязменны. Не дай божа, патрапіць у суседзі кепскі чалавек! Пакуль яшчэ гэты інтэрнат змяшчанага тыпу, адначасова ён дае яркі прыклад пераходу з халасцяцкага ў сямейны. Гадоў пяць назад, зазначае дырэктар, да нас гэта толькі падкрадалася, а цяпер тут ужо каля 30 сем'яў, і ў кожнай сям'і па 1–2 дзіцяці. Нягледзячы на цяжкасці, звязаныя з інтэрнатаўскім жыццём, дырэктар кажа, што самыя лепшыя мужчыны-гаспадары – гэта тыя, хто пажыў у інтэрнаце. Сам гатуе, мые, ходзіць па крамах і чысціню падтрымлівае неймаверную, словам – загартаваны чалавек. Нязручнасцю гэтага будынка і адзіным важкім мінусам застаецца агульны балкон, агульная кухня і агульны санвузел на паверх з 29 пакоямі. Плата за арэнду пакоя расце і цяпер складае трохі менш за 10 тысяч у месяц. Вядома, праблема чапляецца за праблему, і хаця трактарны завод збольшага дапамагае, але фінансы ўвесь час кульгаюць на абедзве нагі, і нізкія заробкі перашкаджаюць знайсці працаўнікоў для інтэрнату, а тым больш зрабіць якасны капрамонт ці абсталяваць пакоі для сем'яў.

Інтэрнат № 9 для нашага часу паказальны, няхай там і зусім не хатнія ўмовы, і сёлета спаўняецца 30 гадоў з дня першага засялення. А інтэрнат-стандарт на сёння – гэта для чалавека з запатрабаваннямі проста жах. Мала таго, што ніякага асабістага жыцця, – у інтэрнаце можна пазбавіцца нейкай часткі сваёй маёмасці, напрыклад, сама менш – пасцельнай бялізны падчас сушкі на агульным балконе. Вельмі заўважаецца ў такіх умовах адносна добрае сацыяльнае становішча суседа, а хто зарабляе менш, той зайздросціць. Каб адчуць слодыч інтэрнацкага жыцця, трэба там пажыць.

Вядома, тое, што знаходзіцца ў пакоях, набываюць самі жыхары ў залежнасці ад заробку і стараннасці, але брудныя калідоры са спецыфічным пахам, падрапаныя сцены, завэдзганыя дзверы і г.д. застаюцца за начальствам. Выбар інтэрнату – задача няпростая: па-першае, як пашчасціць з прадпрыемствам; па-другое, усе аднолькава дрэнныя і, больш за тое, часовыя. Як кажа адзін з інтэрнацкіх жыхароў: «У такім становішчы ўжо не звяртаеш увагі на ўмовы. Ёсць дзе жыць, чым абставіць пакой, і добра, бо галоўнае – выхаваць дзяцей, каб яны змаглі выжыць без нашай дапамогі, а з дапамогай свайго розуму». Дзіўна, але сапраўды, у сямейных інтэрнатах дастаткова ціха, калі не зважаць на дзіцячыя крыкі, дый умова засялення – прыстойнасць. У нейкім плане тут яшчэ прысутнічаюць ярка акрэсленыя прыкметы мінулага: раўняцца на таго ў інтэрнаце, хто лепш жыве, выстаўляць чалавека на ўсеагульнае асуджэнне за п'янства і г.д.

Атрымліваецца, што ажыццёўленая некалі ідэя інтэрнатаў для вырашэння жыллёвых праблем іншагародніх была проста геніяльнай, аднак недахоп дзяржаўных сродкаў на добраўпарадкаванне гэтых установ, адсутнасць асабістага жыцця, «кіраўніцтва» аднаго чалавека над цэлымі сем'ямі ператварылі ў пакуту жыццё многіх людзей, якія захацелі жыць у цывілізаваным месцы з перспектывай на будучыню.

**Ірына ТОЎСЦІК**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Цень свастыкі над Нявой

20 красавіка – дзень нараджэння Гітлера. Як правіла, у «паўночнай сталіцы» ў гэты дзень не абыходзіцца без эксцэсаў. У лепшым выпадку – дружны тупат армейскіх чаравікаў па асфальце і крыкі «Зіг хайль!», у горшым – кроў. Банды скінхедаў з голенымі галовамі пераць афрыканцаў і каўказцаў: камерунцаў, танзанійцаў, азербайджанцаў, дагестанцаў. Ёсць ахвяры. А міліцыя, як правіла, маўчыць – у крайнім выпадку прыцягнуць за хуліганства, а зусім не за распальванне міжнацыянальнай варожасці з выкарыстаннем гвалту. Чаму?

– Калі верыць расістам, з некаторых аддзяленняў міліцыі іх праводзяць наказам «біць чурак колькі заўгодна», – кажа рэдактар «Новай газеты» ў Пецярбургу Мікалай Данскоў, які «прыцэльна» займаецца гэтай праблемай. – З улікам таго, што ледзь не палова міліцыянтаў так ці інакш прайшла праз мясарубку Чачні, вярнуўшыся адтуль далёка не з самымі прыязнымі да каўказцаў настроямі, гэта гучыць не так ужо і няпраўдападобна...

Данскоў зняў пра піцерскіх неанацыстаў кароткі фільм, свайго кшталту «рабочы матэрыял», які ўражвае адкрытасцю выказванняў. Вось на экране група маладых людзей з голенымі галовамі, у аднаго з іх на шыі татуіроўка – чэрап і косткі.

– Гэта «Мёртвая галава», эмблема дывізіі СС, якая ахоўвала габрэйскія канцлагеры, – тлумачыць адзін са скінхедаў. – СС – заснавальнікі: яны ачышчалі сваю нацыю, а мы ачышчаем сваю ад габрэяў, каўказцаў, азіятаў і неграў.

– Як?

– Забіваць на ... рэзаць, біць... – дружным рогатам адказваюць скінхеды.

Па словах Данскова, у Пецярбургу ад пяцісот да дзвюх тысяч «скіноў», шмат хто з іх аб'яднаны ў групоўкі з назвамі «Кроў і гонар», «Аб'яднаныя брыгады-88» (лічбы – закадаваныя імя і прозвішча Гітлера). З выгаленымі галовамі, адзетыя ў кароткія курткі без каўняроў (так зручней выварочвацца з рук міліцыянтаў), яны галёкаюць: «*Россия – для русских!*» і імкнуцца адлупцаваць любога «*инородца*», які ім трапіцца на дарозе.

Другі атрад неанацыстаў – мясцовы аддзел нацыянал-бальшавіцкай партыі. Вось іхні лідэр Андрэй Грабнёў, убраны ў камуфляж, тлумачыць таварышам па змаганні, што трэба «адрадзіць берыеўскія традыцыі».

– Чаму не рэабілітаваны Берыя, які зрабіў Расію вялікай? – надсаджваецца ён на трыбуне партыйнага сходу. А саратнікі скандуюць: «Сталін, Берыя, ГУЛАГ!»...

Грабнёў – не толькі партбос, але і рэдактар газеты «*Наше обозрение*», якой захапляўся б Гебельс. Змест кожнага нумару – наглядная ілюстрацыя да 282-га артыкулу Крымінальнага кодэксу РФ «Узбуджэнне нацыянальнай, расавай ці рэлігійнай варожасці». Заклікі «біць падручнымі сродкамі акупантаў-крывасмокаў з Каўказу і Сярэдняй Азіі», лагатыпы «*Минздрав предупреждает: общение с пришельцами с Кавказа и Азии опасно для вашего здоровья*», тлумачэнні, якую «пагрозу» для расійцаў складаюць цыганы і таджыкі... На першай паласе – групавая фатаграфія «скіноў» з рукамі, ускінутымі ў нацыстоўскім прывітанні. І лозунг тых, хто любіць называць сябе «гаўляйтэрамі» і «партайгеносэ», – «Антыфашызм не пройдзе».

А як жа пракуратура? Ніяк. На звароты піцерскіх дэпутатаў Заканадаўчага сходу і Дзяржаўнай думы ад «Яблыка» Міхаіла Амосава і Аляксандра Шышлова пракурор гораду Іван Сыдарук і намеснік генеральнага пракурора Расіі Васіль Калмагораў даюць стандартныя адказы: ува ўзбуджэнні крымінальнай справы адмоўлена, бо не знойдзена наяўнасці прамога намеру. Відаць, каб прыцягнуць нацыстаў да адказнасці, іх артыкулы мусяць канчацца натарыяльна завераным прызнаннем аўтара ў намеры распаліць міжнацыянальную варожасць. І заяваю ў пракуратуру з просьбай узбудзіць супраць яго, нягодніка, крымінальную справу.

Дарэчы, тая ж пракуратура нядаўна адмовілася прызнаць расісцкімі надпісамі выявы свастыкі на піцерскіх дамах. Маўляў, калі побач напісана «Бі жыдоў» – гэта іншая рэч. Але і тады, калі «біць» заклікаюць публічна, пракуратура прыстаўляе падзорную трубу да выбітага вока.

Ні піцерская, ні федэральная ўлады не заўважаюць ценю свастыкі, што навіс над Нявой. Або не хочуць заўважаць?

**Барыс ВІШНЕЎСКІ**

# Маскоўскія скінхеды трэніруюцца на базе АМАПу

*Газета «*Московский комсомолец*» публікуе вынікі журналісцкага расследавання пасля ўкаранення свайго карэспандэнта ў арганізацыю «брытагаловых».*

Як піша газета, нягледзячы на заявы начальніка ГУУС Масквы Уладзіміра Проніна пра тое, што ён не ведае «такой партыі – скінхеды», што «скінхеды – гэта міф, які стварыла прэса», гэтая партыя добра вядомая маскоўскай міліцыі. Таму што «брытагаловыя» баевікі рыхтуюцца да пагромаў пад кіраўніцтвам інструктараў у элітным падраздзяленні міліцыі.

## Як стаць скінхедам

Сяброўская складка – 100 рублёў. Выдаюць навучальныя дапаможнікі: брашуру «Асновы русізму» і некалькі нумароў нацысцкай газеты «*Я – русский*». У гэтым штабе навічкам чытаюць лекцыі. Тэзісы простыя: «У сусветнай навуцы пасля Трэцяга рэйху не з'явілася нічога новага!»

Кухня – мазгавы цэнтр партыі, піша аўтар артыкулу. Камп'ютэр, тэлефон з вызначальнікам нумару і Лена – рэдактар нацысцкага органу «*Я – русский*». Першае партыйнае заданне засланай журналістцы: аб'ехаць станцыі метро, знайсці бабуль, якія гандлююць газетамі накшталт «*Завтра*», і прапанаваць ім пашырыць асартымент «*ЯРам*».



У штабе – куча рознай літаратуры: ад гісторыі ку-клукс-клану да антысеміцкіх кніжак кшталту «*Закон выживания подлейших*». А газеты ўвогуле раскіданыя па ўсіх кутах. Вось урывак з нумару 13 за мінулы год, рубрыка «Дзённікі скінхеда»: «Масква. 8 сакавіка 2001 г. Выпіўшы досыць піва, мы павалілі на вуліцу. Нам на вочы трапіліся два піянеры



нашага руху. Яны былі ў крыві... і распавялі, што іх пабілі чэрці (асобы нярускай нацыянальнасці). Гэтага мы не маглі перанесці і вырашалі пакараць чарцей. Хвілінаў дваццаць спатрэбілася на тое, каб сабраць 50 лычоў і запаліць па раёне».

## Чаму не было пагромаў

13 красавіка ў штабе скінхедаў быў «збор камандзіраў». На ім адбылася наступная размова:

– Ну, як вы ўсе чулі, у гэтым годзе адзначаць дзень нараджэння Адольфа Гітлера будзе міліцыя... Усе чулі – узмоцнены рэжым у маскоўскіх мянтоў і ўсё такое. Натуральна, яны ў сябе ў мянтоўках і вып'юць, не без таго. А мы гэтыя два дні нічога ладзіць не будзем. Чуеце, камандзіры? Перадайце вашым падначаленым: 20-га і 21-га штаб зачынены, каб на «Беларускай» нікога не было.

– Прапаную адзначыць дзень смерці фюрэра, гэта 30 красавіка. Тады ніхто нічога не будзе чакаць.

– Добра. Толькі давайце не так, як у Царыцыне! Трыста чалавек было, а ў выніку – усяго трое забітых! Смеху варта!

Карэспандэнт «*МК*» паведамляе, што асноўныя вехі гэтага «плану «Барбароса» – 30 красавіка, дзень смерці Гітлера, і 26 ліпеня, дзень нараджэння верхаводаў маскоўскіх скінхедаў Бусы і Іванова (яны нарадзіліся ў адзін дзень). «Да нашага свята, – заявіў Іваноў, – цэнтр Масквы павінен належаць «брытагаловым». Нас ужо дастаткова шмат: ва ўсіх гарадскіх падраздзяленнях больш за паўтары тысячы чалавек. Трэбы весці вулічную вайну – гэткая ж тактыка была ў Гітлера, вось ён і прыйшоў да ўлады. Але ўсё павінна быць старанна падрыхтавана. Па-першае, расклейка ўлётак – цяпер будзем клеіць у цэнтры. І лозунгі мяняем – будзем змагацца з наркаманіяй. Тут і насельніцтва нас падтрымае, і мянты нічога не змогуць зрабіць».

## Дзе трэніруюцца брытагаловыя

Трэніроўкі скінхедаў адбываюцца ў Строгіне, на вуліцы Талінскай. На заняткі брытагаловыя ходзяць групамі чалавек па 40–50. «У сяміпавярховым будынку АМАПу ГУУС Масквы светла, прасторна, пахне свежай фарбай, – піша карэспандэнт «*МК*», укаранёны ў банду. – У холе – дошка аб'яваў. Выцінкі з газетаў пра «герояў Чачні», побач – нататка з газеты «*Я - русский*» пад назвай «Я, скінхед, хачу ўступіць у партыю». З пасажам пра гарачае жаданне знішчаць «чарнаж... сук». Мы спускаемся ў падвал. Калідоры, пакоі, спартовыя залі... Побач праходзіць супрацоўнік АМАПу ў форме, аглядае скіноў і кажа: «Там нейкая камісія ходзіць, дык вы асцярожней».

Згодна з планамі Іванова, перад «часам ікс» – 26 ліпеня, калі прызначаны пагромы ў цэнтры сталіцы, – міліцэйскія інструктары навучаць «*русских пацанов*» слушна забіваць. Не карыстаючыся падручнымі матэрыяламі, як гэта было да гэтага часу. «Арганізацыйныя пытанні вырашаюцца кіраўніцтвам сталічных нацы з міліцэйскім начальствам на іншым узроўні, – піша журналістка. – На якім? Намеснікаў начальніка РУУС? Кіраўнікоў акруговых упраўленняў? Раённых аддзелаў? Начальства спецпадраздзяленняў? Высветліць гэта за два тыдні я не змагла. Зразумела іншае. Навошта маскоўскай міліцыі змагацца з нацыстамі? Навошта ўкараняць сваіх «штырліцаў» у іхнія шэрагі? Сапраўды, навошта? Гэта ж ужо адбылося. З дакладнасцю да наадварот».

## Міліцыя абвяргае публікацыю ў «*МК*»

Тым часам у эфіры радыёстанцыі «*Эхо Москвы*» начальнік Упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязяў ГУУС Масквы Сяргей Шаўцоў назваў публікацыю ў «*МК*» правакацыяй. Разам з тым, заявіў ён, рашэннем начальніка ГУУС сталіцы АМАП будзе правераны.

Публікацыю ў «*МК*» Шаўцоў назваў «вельмі небяспечным рэкламным праектам»: маўляў, газета знаёміць моладзь з ідэалогіяй скінхедаў. Акрамя таго, публікацыя абражае супрацоўнікаў міліцыі, якія не дапусцілі беспарадкаў у мінулыя выходныя.

Што датычыць абяцанняў зладзіць пагромы 30 красавіка, гэтая інфармацыя – для пракуратуры, дадаў Шаўцоў. Адначасова крыніца «*Интерфакса*» ў ГУУС Масквы паведаміла, што сталічная міліцыя мае «дастаткова сілаў і сродкаў, каб спыніць вылазкі брытагаловых, дзе б і калі б яны сябе ні праявілі».

Што да чутак пра тое, што скінхеды нібыта рыхтаваліся на адной з базаў маскоўскага АМАПу, крыніца адзначыла, што там праводзіліся заняткі з моладдзю па ваенна-патрыятычным выхаванні.

## Дакладнасць апублікаваных звестак

Рэдактар аддзелу гарадскога жыцця газеты «*Московский Комсомолец*» Айтэр Муждабаеў настойвае на дакладнасці апублікаваных газетай звестак пра падрыхтоўку скінхедаў на базе АМАПу ГУУС Масквы. Пра гэта ён заявіў у эфіры радыёстанцыі «*Эхо Москвы*». «Замест таго, каб прымаць захады і разбірацца з гэтай сітуацыяй, яны спрабуюць сказаць, што журналісты чарговы раз схлусілі», – заўважыў Муждабаеў. «Магу сказаць, што гэта абсалютная праўда. Сведчанне гэтаму – фотаздымкі, апублікаваныя ў нашай газеце, і амаль двухтыднёвае знаходжанне нашага карэспандэнта ў шэрагах арганізацыі скінхедаў», – дадаў ён.

«ГУУС Масквы паведамляе, што гэта былі заняткі з моладдзю на базе маскоўскага АМАПу. Мы проста растлумачылі, з якой моладдзю займаецца маскоўскі АМАП», – сказаў Муждабаеў.

# Зачысткі ў амерыканскіх аэрапортах



Улады ЗША правялі беспрэцэдэнтную зачыстку сталічных аэрапортаў. Усяго за адзін дзень было арыштавана больш за 140 супрацоўнікаў наземных службаў, у асноўным нелегальных імігрантаў. Ім пагражае да 10 гадоў турмы, буйныя штрафы і дэпартацыя.

Масавыя затрыманні былі праведзены ў гэты аўторак у вашынгтонскіх аэрапортах імя Рэйгана, імя Далеса і Балтымор-Вашынгтон. Большая частка арыштаваных – супрацоўнікі прыватных кампаніяў, якія займаюцца прыбіраннем памяшканняў і самалётаў, ахovай, будоўляй, сартаваннем багажу, а таксама працаўнікі грамадскага харчавання: пастаўшчыкі правізіі, кухары і пасудамыйкі. Амаль усе затрыманыя мелі доступ у любыя зоны аэрапорту, у тым ліку самалёты і склады багажу.

Затрыманыя абвінавачваюцца па цэлым шэрагу артыкулаў – у незаконным уездзе ў краіну, бязвізавым пражыванні, падробцы рэкамендацыйных лістоў, карт сацыяльнага страхавання, пропускаў і іншых дакументаў і ўтойванні крымінальнага мінулага. Ім пагражае ад двух да дзесяці гадоў турмы, штрафы ў памеры 250 тысяч даляраў і дэпартацыя з ЗША. Міністр юстыцыі Эшкрафт не лічыць такое пакаранне жорсткім. Ён ужо заявіў, што «не пацерпіць ніякіх слабых месцаў у сістэме бяспекі нашых аэрапортаў».

Масавыя зачысткі ў амерыканскіх аэрапортах сведчаць пра тое, што праваахоўныя органы краіны шукаюць больш эфектыўных спосабаў, каб умацаваць бяспеку. Улады нарэшце ўсвядомілі, што ўзмацненне кантролю на пунктах мытнага дагляду – гэта толькі паўмера. Новая палітыка праваахоўных органаў забівае двух зайцоў – умацоўвае бяспеку аэрапортаў і спрыяе барацьбе з нелегальнай іміграцыяй.

# Шырак не хоча дэбатаваць з Ле Пэнам

Жарсці, выкліканыя нечаканым удзелам лідэра французскіх ультраправых Жан-Мары Ле Пэна ў другім туры прэзідэнцкіх выбараў, працягваюць распаляцца. У французаў не будзе магчымасці супаставіць двух кандыдатаў у прэзідэнты. Жак Шырак напярэдадні адмовіўся ад публічных дэбатаў са сваім канкурэнтам за прэзідэнцкае крэсла. Па словах цяперашняга французскага прэзідэнта, «нецярпімасць і нянавісць» Ле Пэна робяць такую дыскусію немагчымай. Ле Пэн ужо асудзіў такое рашэнне Шырака, назваўшы яго замахам на правілы дэмакратыі. Тэледэбаты – неадменны атрыбут перадвыбарных прэзідэнцкіх кампаній, пачынаючы яшчэ з сямідзесятых гадоў, і, мяркуючы па апытаннях, 7 з 10 французаў хочуць бачыць іх і на гэты раз.

Ле Пэн, пазбаўлены такім чынам вялізнай рэкламнай прасторы ў сваёй краіне, накіруецца ў Брусель, дзе знаходзіцца Еўрапарламент. Там ён мае намер выступіць на прэс-канферэнцыі супраць Еўрапейскага Саюзу. Лідэр Нацыянальнага фронту хоча ініцыяваць правядзенне рэферэндуму па выхадзе краіны з ЕС. Ён параўноўвае Еўрасаюз з СССР і кажа, што Францыя можа абрынуцца пад націскам імігрантаў. Ле Пэн сцвярджае: вынікі ў другім туры выбараў будуць гэткімі ж нечаканымі, як і ў першым, але ў Францыі ў гэта мала хто верыць.

# Пратэсты падманутых




Аргенціна. Буэнас-Айрэс. Усё, што засталося ўкладчыкам – абклейваць замкнёныя дзверы банкаў пратэстамі і самавыяўляцца, крэмзаючы фарбай іх сцэны. Рахункі замарожаныя, а сродкі, што ляжаць на іх, канвертуюцца ў доўгатэрміновыя дзяржаўныя абавязацельствы. Больш ніякіх эканамічных цудаў.

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Сны святога Губерта

## Гутарка з гарадзенскім мастаком Алесем Суравым

*«Сны святога Губерта» – назва карціны Алеся Сурава, які падпісвае свае творы псеўданімам «Суровы». Ён – сябра Саюзу тэатральных дзеячаў, працаваў у Дзяржаўным музеі гісторыі рэлігіі мастаком, потым у абласным тэатры лялек – сцэнографам. Сёння – вольны мастак. Стала выстаўляе свае карціны на персанальных і супольных выставах. Апошняя адбылася ў гарадзенскай галерэі «Раскоша». Выстаўляліся тры сябры, якія аб'ядналіся пад назвай «СССР», што азначае – «Суполка Сурава, Стратовіча, Рамашкі». Вядомы ён і як карыкатурыст. Малюнкі на палітычныя тэмы друкаваліся ў «Пагоні» ды іншых выданнях і выйшлі асобнай кніжкай, за якую мастак ледзьве сур'ёзна не пацярпеў.*

***– На тваю мастацкую творчасць, як я ведаю, уплывае літаратура, кнігі. Ты захапляўся Кастанэдам, лацінаамерыканскімі аўтарамі...***

– Сапраўды, я вельмі многа купляю літаратуры – ад мастацкай да сур'ёзнай. Перачытаў нядаўна ўсяго Гумілёва. Купіў Амара Хаяма. Мяне здзіўляе маштабнасць мыслення, погляд чалавека на свет у часы даволі жорсткага мусульманства. Я займаюся разнастайнымі формамі мастацтва. Цяпер, напрыклад, выпусціў цэлую серыю масак. Тэатральных, карнавальных, накшталт венецыянскіх.

***– Цябе заўжды вабіць у далёкія краіны, нават у творчасці. Успомніць хаця б тваю лацінаамерыканскую выставу. Дзе цяпер гэтыя карціны – індзейцы, канкістадоры?***

– Яе лёс цікавы. Я параўнаў лёс індзейцаў і сучасных беларусаў, убачыў паралель. Тыя ж самыя лацінаамерыканскія дыктатары, яны прыходзілі да ўлады, каб кіраваць фактычна яшчэ не сфармаванымі нацыямі. Таму што там, як правіла, няма аднародных нацыяў у межах адной краіны. Ёсць выбуховая сумесь, якая яшчэ не хутка ператворыцца ў нешта станоўчае, няхутка дасць плён. На гэтым паразітуюць прайдзісветы. У нас адбываецца падобнае. Геаграфія знаходжання тых карцінаў такая: ад Мінску, Масквы (нашы землякі купілі дзве работы) – да Англіі, куды на выставу былі ўзяты восем карцін. Іх лёсу я не ведаю. Але ён мяне і не цікавіць. Праца зроблена, і яна пачынае жыць асобна ад мастака.

***– Лацінская Амерыка, сляды старых цывілізацый. Амазонка, джунглі. Ці няма ў гэтай тваёй зацікаўленасці чагосьці ад Палесся, ад тваіх родных мясцінаў? Я памятаю, на тваёй выставе выкарыстоўваліся лацінаамерыканскія вершы беларускага эмігранцкага паэта Уладзіміра Дудзіцкага.***

– Дудзіцкі пасля вайны сапраўды жыў у Венесуэле і пісаў пра тыя рэшткі старажытных цывілізацыяў. Што да мяне, дык я прыйшоў да ўсведамлення сябе як беларуса, без перабольшвання, менавіта праз гісторыю тых народаў. Я, як усе, цікавіўся прыгодніцкімі раманамі пра індзейцаў. Але захацелася зірнуць глыбей. Зацікавіўся індзейскімі культурамі, гісторыяй нараджэння тамтэйшых нацый. Я лічу, што і беларусы як нацыя толькі нараджаюцца. Не было краіны ў ранейшыя часы з такой назвай.

***– А ці задавальняе цябе Беларусь як краіна?***

– Я ў Еўропе дзесяць краін аб'ездзіў, прапаноўвалі застацца. Тым больш пасля скандалу з кніжкай карыкатураў. Крымінальная справа сваім часам была супраць мяне заведзена за карыкатуры, яе потым закрылі. Але я ніколі не скарыстаю з падобных прапановаў. З адной прычыны. Няможна гарманічна жыць і гармонічна развівацца ўдалечыні ад той зямлі, дзе ты нарадзіўся. Не будзе ўнутранага падсілкавання. І мне мой унутраны стан важнейшы, чым матэрыяльныя справы. Мне зусім не цікава мець усё за мяжой, але тужыць па Радзіме.

***– А ці не надта моцна ўплывае на нас тое, што мы, па-першае, беларусы, па-другое, што нас столькі ў таталітарнай дзяржаве пратрымалі? Пікасо ды іншыя ездзілі, жылі ў розных краінах, пісьменнікі таксама. Пісалі і былі вядомымі. Вельмі плённа працавалі не на радзіме.***

– Справа ў тым, што я яшчэ нацыянальна свядомы чалавек. Я уяўляю, што гэта мая зямля. Тыя сілы, якія супраць культуры і мовы гэтага народу, яны чакаюць, каб я з'ехаў. Для мяне Беларусь – гэта рэальнасць, абсурдна з'язджаць адсюль, калі я заявіў пра сябе як пра нацыянальна свядомага чалавека. Калі заявіў, што люблю гэтую краіну, дык чаму ты з яе з'ехаў? Ад таталітарных часоў ува мне засталася зацятасць. Мяне яшчэ з тых піянераў вучылі змагацца за свае ідэалы...

***– Здаецца, гэта над тваёй роднай мясцінай збілі той паветраны шар з амерыканцамі?***

– Гэта якраз у тыя часы адбылося, калі я сваю амерыканскую выставу рыхтаваў. Над маёй Бярозай гэта здарылася. Маці мая і дачка бачылі на свае вочы. Яны капалі бульбу тады. З іхніх словаў, ляцеў вельмі прыгожы шар, рознакаляровы. Потым нашы афіцыйна паведамілі, што ён быў шэры і без апазнавальных знакаў. З'явіўся верталёт, які пачаў па ім страляць. Яны не маглі зразумець, думалі, што гэта вучэнні, недалёка аэрадром знаходзіцца. Яны не ведалі, што там былі людзі.

***– Здарэнне было надзвычайнае, нават шок, я памятаю... А калі ты пазнаёміўся з замежжам?***

– Пачаў знаёміцца з 1990 году, калі атрымаў у якасці аплаты ад абкаму камсамолу пуцёўку ў Югаславію і пабыў у Харватыі, Чарнагорыі і Сербіі. Райская краіна. Але мне ўжо тады здалося, што яны гэтага не заўважаюць, не цэняць. Быццам жывуць часова. Цікава заўжды ўбачыць на свае вочы іншае жыццё, параўнаць, узбагаціць свой досвед. У Германіі і Францыі быў некалькі разоў, нават у Люксембургу.

Мы зрабілі п'есу французскага пісьменніка Макса Эйроля, на французскай мове. Напісалі яму, што паводле яго кніжкі апавяданняў зрабілі спектакль. Ён зацікавіўся, папрасіў відэакасету. І запрасіў нас у госці. Мы прыехалі ў Лімож – сталіцу правінцыі Лімузін – і далі 12 спектакляў. Нас цёпла прынялі. За гэты спектакль мяне тады прызналі лепшым сцэнографам Беларусі. Вельмі высока ацанілі і сам спектакль.

Аказалася, што непадалёк ад Лімузіна знаходзіцца правінцыя Каньяк. Мы ўбачылі ландшафт цалкам у вінаградніках. Краявіды ў стылі французскіх імпрэсіяністаў. Мы паехалі на прыватны заводзік, які ўтрымліваюць фермеры. Каб спаборнічаць з вялікімі заводамі, яны робяць каньяк не 3–5-гадовай вытрымкі, а мінімум 9 год і далей – 12, 25, 45. Мы трапілі да гаспадыні мадам Дзюрсо. Яна нас частавала неверагоднымі напоямі, нават дзедавым, 45-гадовай вытрымкі, каньяком.

Самы танны каштаваў 25 даляраў за бутэльку. Але я тады зразумеў – што такое сапраўдны каньяк. Калі п'еш напой такой вытрымкі і якасці, шчыра кажу, такое адчуванне, што п'еш альбо расплаўлены бурштын, або адчуваеш, як у цябе ўліваецца сонца.

На кожным заводзіку існуе невялікая дэгустацыйная заля. З намі быў Віктар Шалкевіч. Ён пачаў тэатральна вохацьахаць, і мы таксама выказвалі сваё захапленне. Там якраз было некалькі чалавек, якія заехалі выбраць сабе каньяк. Звычайна гэта замежнікі, якія аб'язджаюць правінцыю Каньяк з планам размяшчэння заводзікаў. Дэгустуюць, і калі ім падабаецца, дык звычайна бяруць бутэльку-дзве. Гаспадыня нам сказала, што ў выніку ўсе яны купілі мінімум па пяць бутэлек. Яна была такая шчаслівая, што падаравала нам 2-літровую бутэльку добрага каньяку.





Фота Ул. ШЛАПАКА

Тая сям'я займаецца вырабам каньяку 300 год. Як шмат там значаць традыцыі, чаго няма ў нас. Дарэчы, ліможцы казалі нам, што яны – аквітанцы. Што дэ Голь забараніў іхнюю мову ў 1945 годзе і школы закрылі. Так, як у нас. Але яны захавалі мову, звычаі, песні.

***– Якім мастацтвам ты цяпер займаешся і чым зарабляеш на жыццё?***

– Апошнім часам займаюся інтэр'ерам. На жаль, мала што ў нас адкрываецца. Але нядаўна я афармляў цікавую кавярню з більярдам. Тым больш, што мне далі поўную свабоду дзеяння. Я зрабіў яе ў стылі «арт-мадэрн». Зараз маю новы заказ, але там больш жорсткія ўмовы. Гэта будзе крама кавы і гарбаты. У старым будынку паблізу ад цэнтру. Ёсць магчымасць свае ідэі ажыцьявіць у прасторы. Праца з карцінай сам-насам больш камерная, больш філасофская ўсё ж такі. А інтэр'ераў добрых у нас пакуль амаль няма. І ўсе ад гэтага так ці інакш пакутуюць. Першай маёй кавярняй быў «Кляштар» у колішнім Музеі гісторыі рэлігіі. Такая арт-кавярня, якую я аформію ў сярэднявечным стылі. Я быў адным з уладальнікаў гэтай кавярні і тады працаваў у самім музеі мастаком. Але кавярню зачынілі, бо музей выселілі з Базыльянскага кляштара, які аддалі праваслаўным.

***– А потым былі занятаки сцэнаграфіяй, якія скончыліся адначасова ўдалым спектаклем і канфліктам з начальствам...***

– Са спектаклем «Ліпавічкі», дарэчы, дзіцячым, быў скандал. Я афармляў яго, а рэжысёрам быў кіраўнік сталічнага тэатру Аляксей Ляляўскі. Пастаноўка паказала, як страшна нашай наменклатуры ад культуры падумаць нават, што каму-небудзь можа не спадабацца спектакль ці штосьці ў ім. І ім страшна, што ўсім «дадуць па шапцы». Народу ўжо не так страшна, як было раней, – пры савецкай уладзе. А ў чыноўнікаў страх застаўся ў генах. Я пытаўся ў іх: няўжо нельга размаўляць нават эзопавай моваю? Яны адказвалі: можна, але лепей нікога не злаваць. Гэты спектакль стаў для мяне лакмусавай паперкай стану культуры знутры. Культуры, якая фінансуецца дзяржавай. Якой кіруюць чыноўнікі – людзі баязлівыя праз меру. Яны нават мысляць не на перспектыву, як мусяць людзі інтэлектуальныя. Яны мусяць бачыць крышку наперад.

Іх абурылі банальныя рэчы. Што хтосьці можа заўважыць аналогію з сучасным днём у Беларусі. Хаця я ніколі не хаваў, што карыстаюся сарказмам, гумарам. Але ў нас нідзе не сказана, што забаронены гумар і сатыра. Іх абурала, што ў дэкарацыях былі выкарыстаны сучасны беларускі герб, пераробленны. Але для іх гэта ўжо ледзьве не абраза дзяржаўных сімвалаў. Мяне рассмяшыла, калі дамачка багемнага выгляду – мастацтвазнаўца ў Мінску – крычала: *«Где вы видели у нас таких крестьян? Наши крестьяне очень красиво одеты, а не в ваших фуфайках!»*.

***– Значыць, мастак Сураў – чалавек, нязручны для ўладаў? І яго нават з майстэрні выселілі праз суд пасля ўсяго гэтага?***

– Я з начальствам ніколі не быў у добрых адносінах. Я чыноўнікаў ніколі не баяўся і заўсёды казаў у вочы ўсё, што думаю. Мне давялося кінуць маё апошняе месца працы ў тэатры. І нават улады пазбавілі мяне мажлівасці арандаваць у гэтым горадзе па больш-менш боскіх коштах памяшканне для працы. Для ўсіх мастакоў, якія сядзяць ціха і нешта сабе малююць, майстэрня каштуе нядорага. Як і для мяне раней было. А потым раптам у мяне запатрабавалі плаціць літаральна сто даляраў у месяц. Я столькі плаціць ніяк не мог. Мяне выселілі праз суд. Але я нават, у пэўным сэнсе, удзячны ім. Яны мне зрабілі своеасаблівую рэкламу. (Дарэчы, пасля скандалу з «Ліпавічкамі» мяне запрасілі ў польскі горад Торунь удзельнічаць у міжнародным пленэры жывапісцаў, які называўся «Канец веку».) Можа, яны думалі, што знішчаць мяне, зробяць маё жыццё вельмі цяжкім. Але я з усяго магу зрабіць штосьці станоўчае для сябе. Яны гэтага не разумеюць. Гэта людзі, якія жывуць у кардонных скрынках, бо няма ўжо «жалезных сценаў». Сядзяць у сваіх кабінетах і ўсяго баяцца.

***– Ты мусіў пайсці на вольны хлеб, знайшоў магчымасць далей працаваць і зарабляць на жыццё. Як даўно ты жывеш у Гародні і што гэты горад для цябе значыць? Што дае сілы працаваць?***

–Я закончыў мастацкую вучэльню імя Глебава ў Мінску і 15 год жыву тут. Я ўпершыню трапіў у горад у 1983 ці 84 годзе і настолькі быў зачараваны, што вырашыў, хаця ўжо працаваў у Мінску, пасля войска прыехаць сюды. Скажу чаму. Я аб'ездзіў усю Беларусь, але няма такога іншага гораду, як Гародня. У ім захаваўся дух. Я ўяўляю, калі хаджу па вуліцах, усю гісторыю гораду, тых, хто тут хадзіў да мяне. Я ведаю гісторыю, падзеі, персаналіі. Шмат розных нападаў было, трагедый, а горад стаіць над гэтым усім. Ён – гэта не толькі цагляныя дамы, а – напачце духоўнае. Можна разбурыць дамы, як калісьці варвары разбурылі Рым, але горад Гародня будзе існаваць ужо назаўсёды. Ёсць больш глабальныя рэчы, чым дробныя жыццёвыя праблемы. Менавіта гэта мяне падтрымлівае. Ну, не з'еў ты, напрыклад, аднойчы абед – гэта дробязі. Ці не маеш на сёння майстэрні. Затое існуе разнастайны свет, жыццё. Яно ў гэтым горадзе надзвычай цікавае. Як цікава на старым тынку здымаць старыя пласты, каб знайсці старадаўнія малюнкі. Тое ж самае з горадам. Ты ў ім жывеш і ты ўсмоктваеш пачуццё глабальнасці гісторыі, жыцця.

***–Ты ўдзельнічаеш у нашым нефармальным клубе аматараў святога Губерта, які нядаўна ўтварыўся. А постаць сярэднявечнага заступніка Гародні табе даўно блізкая, наколькі мне вядома...***

– У мяне сапраўды была карціна, якую я назваў «Сны святога Губерта». Яна выстаўлялася ў галерэі «У майстра», і яе купіў адзін бізнесмен, ён жыве ў Старым горадзе. Я намаляваў манаха з келіхам. Ён як бы ў паветры, пад нагамі – дзікі, а па-над ім – алень з крыжам паміж рагамі. Алень святога Губерта. Так мне ўбачылася гэтая гісторыя з нашым гарадскім гербам.

Гутарыў
Сяргей АСТРАЎЦОЎ

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Мадэрнізацыя спадчыны

*На тэрыторыі Мінску пад дзяржаўнай аховай знаходзяцца 118 помнікаў гісторыі, 6 – археалогіі, 31 – мастацтва, 239 – горадабудаўніцтва і архітэктуры.*

Стан помнікаў археалогіі і архітэктуры ў Мінску выклікае вялікую заклапочанасць. У Верхнім горадзе, Ракаўскім прадмесці пастаянна фіксуюцца шматлікія факты знішчэння каштоўнага культурнага пласта.

Так, у Верхнім горадзе, на рагу вул. Гандлёвай і Інтэрнацыянальнай, у 1999 г. пачалося будаўніцтва велізарнага комплексу сучасных будынкаў на месцы рэстарана «Журавінка». Гэтыя работы на тэрыторыі помніка археалогіі вядуцца без кантролю спецыялістаў-археолагаў, што прывяло да сур'ёзных стратаў.

Насуперак таму, што Мінскае замчышча – гісторыка-культурная запаведная зона, амаль кожны год выяўляюцца факты пашкоджання яго тэрыторыі, знішчэння культурнага пласта XI–XIX стст. У жніўні 1999 г. былі распачаты земляныя работы на тэрыторыі сярэдняй школы № 44 (уваходзіць у запаведнік). Вельмі непакоіць планы будаўніцтва на тэрыторыі Мінскага замчышча новага храма на месцы трагічнай гібелі моладзі ў падземным пераходзе станцыі метро «Няміга». У жніўні 1999 г. Таварыства аховы помнікаў падрыхтавала экспертнае заключэнне па гэтым пытанні, накіраванае ў Камітэт архітэктуры Мінгарвыканкаму. Таварыства лічыць, што з пункту гледжання аховы культурнай спадчыны будаўніцтва любога новага аб'екту, у тым ліку і культавага збудавання, на запаведнай тэрыторыі Мінскага замчышча недапушчальна.

За апошні час з-за дзейнасці АТ «Стары Менск» былі знішчаны шматлікія аўтэнтычныя помнікі архітэктуры ў Верхнім горадзе. Асаблівую заклапочанасць выклікаў лёс помніка архітэктуры рэспубліканскага значэння – комплексу дамоў №№ 19–21 на пл.Свабоды. Улічваючы рэальную пагрозу канчатковага знішчэння гэтага унікальнага аб'екту, сябры Таварыства аховы помнікаў, у тым ліку вядомыя архітэктары, акадэмікі Акадэміі архітэктуры Беларусі В.Аладаў, У.Боўт, Г.Сысоеў і іншыя былі вымушаны звярнуцца з лістом на імя прэзідэнта. Але помнік быў разбураны.

Па даручэнні пракуратуры г. Мінску архітэктурная секцыя Таварыства падрыхтавала экспертнае заключэнне па праекце «Рэканструкцыя з рэстаўрацыяй будынка па вул. Герцэна, 12 у Мінску». Высветлілася, што пад выглядам рэстаўрацыі планавалася знішчэнне аўтэнтычнага помніка архітэктуры і будаўніцтва на яго месцы новага сучаснага офіснага комплексу. Нягледзячы на гэта, праектная дакументацыя па знішчэнні помніка была ўзгоднена Камітэтам па ахове гісторыка-культурнай спадчыны. Дзякуючы заключэнню Таварыства праект знішчэння помніка быў адхілены.



Зруйнаванае пад сходы асяроддзе Дома масонаў і музея Ваньковіча ў мінскім Верхнем горадзе

Вельмі непакояць планы Мінгарвыканкаму пабудаваць на тэрыторыі Верхняга гораду шматярусную аўтастаянку на вул.Няміга. Архітэктурная секцыя Таварыства разгледзела на сваім паседжанні праектную прапанову па будаўніцтве гэтай аўтастаянкі і прыйшла да высновы, што яе рэалізацыя прывядзе да вельмі негатыўных наступстваў і разбурэння помнікаў гісторыі і культуры.

Пазіцыю Таварыства падтрымалі Беларуская акадэмія архітэктуры, Беларускі рэстаўрацыйна-праектны інстытут, інстытут «Мінскграда» і шэраг іншых установаў, якія падрыхтавалі адпаведныя экспертныя заключэнні. Нягледзячы на гэта, праект будаўніцтва аўтастаянкі быў цалкам ухвалены Камітэтам па ахове гісторыка-культурнай спадчыны, у сувязі з чым Таварыства інфармавала аб сваёй пазіцыі ўрад Рэспублікі і Пракуратуру.

Камітэтам па ахове гісторыка-культурнай спадчыны быў зняты з дзяржаўнага ўліку і аховы комплекс драўлянай забудовы XIX ст. па вул.Дзімітрава, 7–11, у выніку чаго каштоўныя помнікі архітэктуры былі ў 2001 годзе знішчаны, а на іх месцы пачалося будаўніцтва шматпавярховага дома. Пры ўзвядзенні гэтага гмаху быў знішчаны каштоўны археалагічны пласт XII–XIX стст.

Пад выглядам аднаўлення будынка гарадской ратушы плануецца пабудаваць цэлы падземны комплекс, які прадугледжвае знішчэнне гістарычнага сквера на пл.Свабоды, а таксама фантана, пабудаванага ў 1930-я гады паводле праекту архітэктара Г. Якушкі. Адначасова вядзецца рэканструкцыя цэлага шэрагу гістарычных будынкаў, у выніку якой нішчацца інтэр'еры і планіроўка каштоўных помнікаў. У прыватнасці, знішчаюцца інтэр'еры часткі комплексу гасцінага двара (пл. Свабоды, 2), якія звязаны з жыццём і творчасцю В. Дуніна-Марцінкевіча.

Вельмі непакоіць стан гістарычных помнікаў, у прыватнасці, старажытных могілак на тэрыторыі г. Мінску. Таварыству ўдалося спыніць знішчэнне помніка гісторыі – Мінскіх брацкіх вайсковых могілак 1914–1918 гг. Дзякуючы намаганням ягонай архітэктурнай секцыі быў распрацаваны і зацверджаны праект зон аховы гэтага помніка (інстытут «Белспецпраектрэстаўрацыя»).

Мінская гарадская рада Таварыства ў апошнія гады неаднаразова ставіла перад Камітэтам па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пытанні аб унясенні ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей новых помнікаў гісторыі і культуры. У 1998 г. у Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь быў накіраваны ліст з навукова абгрунтаванымі прапановамі аб дадатковай ахове больш як 140 помнікаў архітэктуры, выяўленых падчас даследавання гістарычнага цэнтру Мінску. Але на працягу ўсяго 1999 году ніводзін з гэтых аб'ектаў не быў унесены ў Дзяржаўныя спісы помнікаў. Адначасова ва ўключэнні ў Дзяржаўныя спісы было адмоўлена яшчэ шэрагу помнікаў. У першую чаргу гэта комплекс драўлянай забудовы Ракаўскага прадмесця, дамы па вул. К. Маркса і інш.

У канцы 2001 г. дзяржаўная сістэма аховы гісторыка-культурнай спадчыны была рэарганізавана. Замест Камітэту па ахове гісторыка-культурнай спадчыны ў складзе Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь быў створаны Дэпартамент па ахове і рэстаўрацыі помнікаў гісторыі і культуры. Заменена таксама і кіраўніцтва дзяржаўных органаў аховы спадчыны. Былі вялікія спадзяванні, што новая структура пойдзе на шырокі кантакт з сіламі грамадскасці, зацікаўленымі ў захаванні нашай гістарычнай спадчыны. Тым больш, што ў Таварыстве аховы помнікаў ёсць выдатныя спецыялісты, у тым ліку дактары і кандыдаты навук, якія гатовы памагаць у вырашэнні шэрагу складаных пытанняў. На жаль, пакуль што супрацоўніцтва не адбываецца.

**Уладзімір ДЗЯНІСАЎ**



Турэцкі варыянт «Журавінкі», пабудаваны ў гістарычнай зоне мінскага Верхнега гораду

КУРАПАТЫ

# Сон памяці

## *Небяспечна, калі мроі бяруць верх над розумам*

Як і прадказвала НАША СВАБОДА ў ранейшых публікацыях, найвышэйшая выканаўчая ўлада нарэшце звярнула сваю ўвагу на той ідэалагічны абшар, які раней дэманстратыўна ігнаравала. Выступаючы перад дэпутатамі Нацыянальнага Сходу са штогадовым пасланнем, прэзідэнт упершыню за шмат гадоў выказаўся пра помнік у Курапатах, які абавязкова будзе пастаўлены. Помнік будзе «сціплы», і ўзвядуць яго, можа, адначасна з мемарыялізацыяй Трасцянца. Дамінантай канцэпцыі, як можна здагадацца з прамовы, будуць «людзі», якіх там забілі, а не «ахвяры сталінскага генацыду», як іх вызначаюць даследаванні навукоўцаў і пракуратуры на сённяшні дзень. Па словах А.Лукашэнкі, нейкія вучоныя даводзяць пра расстрэлы там немцамі савецкіх людзей; пра карнікаў з НКУС А.Лукашэнка ў сваім выступе не згадваў.

Паводле ж айчыннай традыцыі спадчыны, нявінна забітых. Няма ў нашай традыцыі звычкі падымаць над могілкамі сцяг. Можа, ён і бывае патрэбным на могілках у часе жалобных цырыманіялаў, але – нахілены да зямлі.

Цяпер замена знішчанага зламысным падпалам намёту на турыстычныя палаткі ператварае гэты ўскраек Курапатаў у нейкі турыстычны лагер.

Фотаздымкі папялішча засведчылі, што ў спаленым намёце было мноства розных слоікаў з прыпасамі – незразумела, нашто і дзеля каго? Там што, адпачывалі бяздомныя і беспрацоўныя? Як суадносіцца «вахта памяці», гэты «пост нумар адзін» – і камплект слоікаў, канапы, коўдры, дровы і да т. п.?

Нібыта выклік здароваму глузду быў закладзены ў гэткае афармленне «абарончай» акцыі. Таму яна не магла набыць шырокай падтрымкі ў народзе, за ёй праглядаецца арыентацыя на беспадстаўнае прысабечванне.



Фота Уладзімір ...

На фоне такога вырашэння праблемы з мемарыялам у Курапатах варта зразумець, што акцыі «У абарону Курапатаў» апошняга часу толькі памагаюць прыхільнікам добрай спадчыны ад СССР пахаваць гісторыю і сэнс Курапатаў пад урадавым рашэннем і сціплым праектам.

Агонь, які знішчыў гэтымі днямі ў Курапатах намёт «вахты памяці» і ў якім ледзьве не загінуў малады хлопец, высветліў усю недарэчнасць гэтай працяглай і неўплывовай акцыі. Ну якая «вахта памяці», калі людзі спяць, як суркі? У часе іхняга начнога адпачынку ў намёце злачынцы маглі спілаваць усе крыжы, што паставілі сябры КХП-БНФ, зламаць «Крыж пакутаў» і г. д. Дык які сэнс было ставіць намёт? І вогнішча каля намёту – гэта таксама не вечны агонь памяці. Гэты сродак для прыгатавання вару разам з вайсковай палаткай валанцёраў прынёс на тэрыторыю ўрочышча рысы першабытнай стаянкі. Можна было б зразумець сталае знаходжанне там грамадскага патруля, які б ранкам і ўвечары кантраляваў ход работ, прысутнасць ці адсутнасць парушэнняў выканання праекту.

Гэткай жа недарэчнасцю выглядае і выкарыстанне ў Курапатах на флагштоку каля намёту нацыянальнага сцягу. Усё роўна як абазначэнне бастыёну, за сценамі якога хаваюцца апошнія абаронцы. Усе Курапаты – гэта брацкія могілкі, магілы ахвяраў сталі-

А іншая суполка прыходзіць удзень і ставіць крыж за крыжам. Прыйдзе час, калі пачнецца будаўніцтва мемарыялу, і тады каля кожнага гэтага крыжа будзе бойка і лямант: «Святыя крыжы вырываюць і хочуць спаліць!»

Адзіныя правы на Курапаты належаць тым ахвярам, якія прынялі там пакутніцкую смерць.

У нас не прынята крытыкаваць «сваіх». І таму маўчанне прыкрывае мноства глупстваў, якія ўжо нароблены і якія толькі выспяваюць. Летам перад выбарамі апазіцыйныя лідэры здрадзілі выбаршчыкам, патрабуючы аднаго кандыдата. Дзеля сумніўных спадзяванняў вырашылі не зважаць на 120 тысяч подпісаў за Домаша. Чаго дзівіцца, што сёння на маршы пратэсту прыходзіць па 500 чалавек? Не таму, што людзі абыякавыя, а таму, што не вераць тым, хто здрадзіў тады. Хто паверыць цяпер Домашу, які летам нацягваў на руку рыцарскую пальчатку, а праз месяц адступіўся перад Ганчарыкам, які паабяцаў яму пасаду прэм'ер-міністра.

Так пацяху і згараюць у раздробленасці, у праявах асабістай пыхі акцыі абароны і змагання. Як два стагоддзі таму, як восемдзесят гадоў таму: чатыры беларусы – пяць шэсцяў і «вахта памяці», абернутая ў сон.

Урокі гісторыі, якіх мы не вывучаем.

**Аддзел культуры**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Беларускія помнікі сусветнага значэння

*Неўзабаве ў Мінск прыедзе генэральны дырэктар ЮНЕСКА Кашыра Мацуура. У часе гэтага візіту спадар Мацуура мусіць прывезці да нас адмысловы сэртыфікат аб уключэньні нашага Мірскага замку ў Спіс сусветнай культурнай спадчыны.*



Нагадаем, што замак у Міры патрапіў у гэты пачэсны спіс разам з яшчэ чатырма сотнямі гісторыка-культурных і прыродных помнікаў з усяго свету ў 2000 годзе. Апрача Мірскага замку, Беларусь прадстаўленая ў Спісе сусветнай культурнай спадчыны яшчэ і Белавежскай пушчай.

Між тым мы хадайнічаем аб уключэньні сюды яшчэ двух аб'ектаў – Нясвіжскага замку і Аўгустоўскага каналу. Не выключана, што гэтае пытаньне будзе падымацца падчас сустрэчы ў Мінску міністра культуры Беларусі Леаніда Гулякі і гендырэктара ЮНЕСКА Кашыры Мацууры. Як паведаміў памочнік міністра культуры Сяргей Вечар, дакладная дата візіту Мацууры яшчэ невядомая, але мяркуецца, што ён адбудзецца ў ліпені. Дарэчы, зусім нядаўна беларускі міністр культуры і генэральны дырэктар ЮНЕСКА бачыліся на Днях культуры Беларусі ў Парыжы.

Заяўку на ўключэньне ў Спіс сусветнай культурнай спадчыны Аўгустоўскага каналу Беларусь зьбіраецца падаваць разам з Польшчай, бо ён размешчаны на тэрыторыях гэтых дзьвюх краін. Праўда, у той час як 80 яго кілямэтраў у Польшчы даглedжаныя і функцыянуюць як гаспадарчы і турысцкі аб'ект, наш 21 кілямэтр Аўгустоўскага каналу на Гарадзеншчыне, як і шмат іншых нашых гісторыка-культурных помнікаў, занядбаны.

Аўгустоўскі канал пачалі будаваць у часы Расійскай імпэрыі ў 1827 годзе, каб атрымаць гандлёвы шлях да Балтыйскага мора ў абход Прусіі, якая усталявала вялікія мытныя зборы. Праўда, потым і Прусія адмяніла высокія пошліны, і гандлёвыя перавозкі сталі ажыцьцяўляцца чыгункай, але тым не менш канал выкарыстоўваўся ў гаспадарчых мэтах. Навігацыя тут распачалася ў 1839 годзе: па канале сплаўлялі лес. Гэтае гідратэхнічнае збудаваньне злучае рэкі Віслу і Нёман праз іхнія прыткі Бебжу і Чорную Ганчу, мае 18 шлюзаў, 4 з іх размешчаныя ў Беларусі.

Рэканструкцыя беларускага ўчастку Аўгустоўскага каналу будзе каштаваць каля 10 мільёнаў даляраў. Яна ўжо была пачалася ў сярэдзіне 1990-ых гадоў, але з-за адсутнасьці грошай была спыненая да лепшых часоў, якія пакуль ніяк не могуць надысьці. Уключэньне Аўгустоўскага каналу ў Спіс сусветнай культурнай спадчыны можа прыцягнуць на яго рэканструкцыю сродкі розных міжнародных арганізацыяў.



Кірэй МАНУЙЛА

# Спаборніцтва зьнішчальнікаў

*Прайшоў дзень помнікаў і гістарычных мясьцінаў. Дзенідзе ўшанавалі памяткі мінуўшчыны, прыбраўшы сьмецьце. Гэта, зразумела, добрая справа, але што могуць вырашыць сьвяточныя прыборкі, калі ў астатнія дні актывізуюцца зьнішчальныя сілы? Часта тое, чаго не зруйнаваў бязьлітасны час, шматлікія войны ды ідэалягічнае змаганьне, руйнуецца сёньняшняй шырокамаштабнай абыякавасьцю. Пакрысе разам з аскепкамі старадаўніх збудаваньняў, з пакінутымі без увагі творамі мастацтва адыходзіць у нябыт нашая памяць, нашая чалавечая адметнасьць. Застаюцца толькі некалькі аб'ектаў, пра якія любяць узгадваць высокія чыноўнікі, калі трэба прывесьці прыклад павагі да беларускай даўніны.*

Пракаментаваць стан аховы помнікаў, а таксама працу, якая вядзецца дзяржавай у гэтым напрамку, мы папрасілі вядомых беларускіх навукоўцаў.

**Надзея ВЫСОЦКАЯ, прафесар, доктар мастацтвазнаўства:**



Афіцыйна, каб забясьпечыць ахову нашым помнікам, мы маем і дакумэнтальную базу, і адпаведныя ўстановы, пляны і праекты. Не хапае толькі аднаго – гонару за нашую спадчыну, павагі і пашаны да нашай уласнай беларускай гісторыі і культуры. Не хапае, адным словам, гістарычнай сьвядомасьці і цікавасьці. Гэта праблема грамадзтва.

На маю думку, зараз у Беларусі не існуе ніводнага помніка, які не быў бы пашкоджаны. Напрыклад, тое, што адбываецца з Мінскам – не рэстаўрацыя, а рэканструкцыя помнікаў мастацтва, наватворы «пад даўніну», якія ніякай гістарычнай ці мастацкай каштоўнасьці не маюць.

Асабліва мяне хвалюе лёс тых каштоўнасьцяў, якія зараз знаходзяцца ў руках царквы. Музэйныя ўмовы захаваньня царкву не вельмі клапоцяць. Прынамсі іконы павінны захоўвацца ў адпаведных зашклёных ківотах, але гэтага няма. Творы мастацтва псуюцца, іх, бывае, перамалёўваюць, а часам нават сьвятары іх прадаюць. Таму рэстаўрацыя помнікаў павінна весьціся пад няспынным кантролем навукоўцаў. Але ў нас такога супрацоўніцтва паміж царквой і музэйшчыкамі няма.

Сёньня ў Беларусі адсутнічае дзяржаўны падыход да аховы помнікаў і стварэньня музэйных комплексаў. Каб захаваць зараз хаця б тое, што засталося, на маю думку, неабходна дзьве рэчы: першае – гэта рэстаўрацыйная палітыка рэспубліканскага маштабу, другое – фінансаваньне і падрыхтоўка спэцыялістаў.

Але самае галоўнае – гэта нашая цікавасьць да ўласнай гісторыі.

**Юры ХАДЫКА, грамадзкі дзеяч, адзін са стваральнікаў Музэю старажытнабеларускага мастацтва:**



Н а ш ы я помнікі і іх занядбаньне сьведчаць пра страту гістарычнай памяці ў народзе, адсутнасьць пачуцця самаідэнтыфікацыі. Трэба прызнаць, што такое стаўленьне шмат гадоў выхоўвалася, рэалізоўвалася і падтрымлівалася дзеючай уладай. На жаль, зьнішчэньне працягваецца і зараз. Прыклад – рэстаўрацыя Мірскага замку, якая доўжыцца ўжо 30 год. Пры такой рэстаўрацыі, калі выкарыстоўваюцца матэрыялы, якія толькі імітуюць першапачатковы выгляд, а не аднаўляюць яго, помнік незваротна страчваецца.

Мастацкая спадчына Беларусі нішчылася на працягу гадоў і з палітычных, і з рэлігійных прычынаў. Абразы пры зьмене афіцыйнай рэлігіі паліліся і перапісваліся. Сёньняшнія ўлады, не аддзяляючы нацыянальных каштоўнасьцяў ад сімвалаў змаганьня з апазіцыяй, мэтаскіравана замоўчваюць нашае мінулае, а тым самым спрыяюць страце мастацкіх твораў.

Але стан аховы помнікаў характарызуе цывілізаванасьць і агульную культуру краіны значна больш за ўсё астатняе.

**Мая ЯНІЦКАЯ, мастацтвазнаўца, адзін з аўтараў і складальнікаў выданьня «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі».**



Лічу, што ахова помнікаў у нас зараз вядзецца вельмі дрэнна. Такога нават раней не было. Грунтоўная рэстаўрацыя неабходная большасьці з іх, але яе трэба ажыцьцяўляць на добра падрыхтаванай навуковай базе. Неабходна, каб працавалі прафэсійныя рэстаўратары, а не звычайныя будаўнікі, якія вельмі хутка робяць еўрарамонт.

Раней улада не клапацілася пра культурна-мастацкую спадчыну, а зараз руйнаваньню архітэктурных помнікаў спрыяюць яшчэ і нашыя прадпрымальнікі, якія стараюцца прыдбаць сабе месца ў гістарычным цэнтры і ўзвесьці тое, што ім хочацца, як гэта адбылося са старым Мінскам.

Нам не хапае павагі да сваёй культуры, да сваіх прашчураў, якія ўзводзілі гэтыя будынкі, да сваёй зямлі, якая захавала нашую даўніну. Гэтага няма, будуецца аднадзёнкі. Стан аховы помнікаў за апошнія гады стаў яшчэ горшы, хоць і раней нам не было чым хваліцца.

Ядвіга МАЦКЕВІЧ

## НАГОДА ЎСПОМНІЦЬ

### 26 красавіка

**1607.** На мысе Генры ў Амэрыцы высаджваюцца першыя ангельскія пасяленцы.

**1792.** Ружэ дэ Ліль склаў баявую песьню для Рэйнскай арміі. З цягам часу гэтая песьня набыла вядомасьць пад назвай «Марсельеза», бо першымі яе засьпявалі рэвалюцыйныя марсэльцы.

**1937.** Пасьля двухгадзённых налётаў гітлераўскіх бамбардавальнікаў дашчэнту разбураны іспанскі горад Герніка ў Краіне Баскаў. У мастака Пабла Пікасо ёсьць карціна, прысьвечаная гэтай трагічнай падзеі.

**1942.** У Ханкейко (Маньчжурыя) адбылася самая буйная ў сьвеце катастрофа на шахце. Загінула 1 549 гарнякоў.

### 27 красавіка

**1667.** Сьляпы ангельскі паэт Джон Мільтан прадаў за 10 фунтаў правы на напісаную ў гэтым жа годзе самую славутую сваю паэму «Страчаны рай».

**1822.** Нарадзіўся Уліс Сімпсан Грант, галоўнакамандуючы арміяй Поўначы ў часе Грамадзянскай вайны і 18-ы прэзыдэнт ЗША. Прэзыдэнтам ён прабыў два тэрміны.

**1840.** У Англіі упершыню ў сьвеце з'явіліся паштовыя маркі. Чорная была аднапэнсавая, а сіняя – двухпэнсавая, абедзьве з профілем каралевы Вікторыі. Ідэю выкарыстаньня марак для аплаты паштовых адпраўленьняў падаў Роўленд Хіл.

**1867.** У Парыжы прайшла прэм'ера опэры Шарля Гуно «Рамэо і Джульета».

### 28 красавіка

**1937.** Нарадзіўся адзін з дыктатараў 20-га і 21-га стагодзьдзяў Садам Хусэйн, прэзыдэнт Іраку ад 1979 году.

**1957.** Заснаваная Сусьветная фэдэрацыя народненых гарадоў. Адпаведны дзень адзначаецца кожную апошнюю нядзелю красавіка.

### 29 красавіка

**1727.** Нарадзіўся Жан Жорж Навэр, французскі харэограф, рэфарматар балету. З 1982 году 29 красавіка адзначаецца як Міжнародны дзень танцу.

**1897.** Ангельскі фізік Джозэф Томсан паведаміў пра адкрыцьцё электрону.

**1937.** Памёр Уолес Х'юм Каразэрс, амэрыканскі хімік. Менавіта ён стварыў першую сінтэтычную тканіну – нейлон. Адбылося гэта ў апошні год ягонага жыцьця, якое вучоны скончыў самагубствам у выніку дэпрэсіі. А прыкладна праз год была наладжаная прамысловая вытворчасьць нейлону.

### 30 красавіка

**1237.** Гэтая дата лічыцца днём заснаваньня Бэрліну. З 1486 году Бэрлін быў сталіцай Брандэнбургу (затым Прусіі), ад 1871 году – Нямеччыны.



**1722.** У газеце *New England Courant* упершыню згадваецца гульня більярд.

**1792.** Пайшоў з жыцьця Джон Мантэгю, граф Сэндвіцкі. Гэты ангельскі палітык пакінуў сваё імя ў гісторыі дзякуючы звычцы есьці мяса, укладзенае паміж двума тостамі. Ён рабіў так, каб не перапыняць шматгадзінны гульні ў карты.

**1857.** Нарадзіўся Эйген Блэйлер, швэйцарскі псіхоляг. Блэйлер упершыню ўвёў тэрмін «шызафрэнія» і апісаў гэтае захворваньне самастойна.

**1992.** У Жэневе абвешчана, што тэхналёгія Сусьветнага сеціва *World Wide Web*, распрацаваная супрацоўнікам Еўрапейскай лябараторыі фізікі элемэнтарных часьціцаў ангельчанінам Цімам Бэрнэрсам-Лі, будзе для ўсіх бясплатнай. Пасьля гэтага інтэрнэт ахапіў усю плянэту.

**1992.** Падчас тэніснага турніру ў Гамбургу прыхільнік Штэфі Граф нанёс нажом раненьне першай на той час ракетцы сьвету Моніцы Сэлеш. Пасьля гэтага тая доўгі час не выступала.

### 1 траўня

**1862.** Нарадзіўся францускі пісьменьнік Марсэль Пруст, аўтар шматтомнага раману «У пошуках страчанага часу».



**1877.** Пачаўся першы Уімблдонскі тэнісны турнір. Спаборнічалі тады толькі мужчыны. Білет на фінальную гульню, у якой перамог Спэнсер Гор, каштаваў адзін шылінг.

**1886.** У ЗША па ўсёй краіне разгортваецца хваля страйкаў і дэманстрацыяў. 4 траўня ў Чыкага сабраўся мітынг пратэсту, падчас якога выбух бомбы забіў 7 паліцэйскіх, а яшчэ 60 – параніў. Паліцыя адкрыла агонь па мітынгоўцах. Пазьней некалькіх арганізатараў мітынгу выракалі на турэмнае зьняволеньне, а некаторых і на сьмерць. У 1889 годзе на Парыскім кангрэсе II Інтэрнацыяналу дзень 1 траўня на знак памяці пра гэтыя падзеі быў абвешчаны днём салідарнасьці працоўных.

**1927.** У Бэрліне прайшла першая сходка нацыстаў на чале з Адольфам Гітлерам.

### 2 траўня

**1772.** Нарадзіўся Наваліс (сапраўднае імя – Фрыдрых фон Гардэнбэрг), нямецкі пісьменьнік-рамантык і філёсаф, які пражыў усяго 29 гадоў. У літаратуры Наваліс вядомы ў першую чаргу сваім няскончаным раманам «Генрых фон Афтэрдынген».

**1857.** Патэнт на праект самалёта з паравым рухавіком, цягнучым вінтом і трохколавым шасі выдадзены Ф. Дзю Тамплю.

Падрыхтаваў Кірыла ПАЗЬНЯК

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



## Парад планетаў

З канца красавіка ў краінах Цэнтральнай Еўропы можна няўзброеным вокам назіраць рэдкую астранамічную з'яву – парад планетаў. Юпітэр, Сатурн, Венера, Марс і Меркурый пасталі ў адну лінію ў заходняй частцы гарызонту.

На чале параду – срэбнаблiскучы Юпітэр. Крыху глыбейшы, але таксама светлы тон мае Венера. Побач размясціліся ваяўніча-чырвоны Марс і Сатурн. Амаль ля самага гарызонту відаць Меркурый.

Навукоўцы адзначаюць, што на геамагнітны стан Зямлі парад планетаў уплывае нашмат менш, чым выбухі сонечнай актыўнасці, і людзі з сардэчна-сасудзістымі захворваннямі могуць не баяцца пагаршэння самаадчування.

Астролагі, у сваю чаргу, любяць звязваць з парадамі планетаў прадказанні ўсялякіх бедаў. Але ў гэтым годзе яны будуць расчараваныя, бо частка неба, на якой відаць планеты, не належыць ніякаму знаку задыяка.

Парады планетаў – не такая ўжо і рэдкая падзея. Апошні раз гэтую з'яву можна было назіраць у 2000 годзе, але тады гледачам давялося браць бінаклі і тэлескопы. Да таго ж праз некалькі дзён парад «расыпаўся», бо некаторыя планеты – такія, як Венера – мяняюць сваё становішча даволі хутка. Сёлета парад планетаў будзе доўжыцца да сярэдзіны траўня.

## Леанарда да Вінчы пазбавіўся аўтарства

Найноўшае радыеграфічнае даследаванне знакамітай карціны Леанарда да Вінчы "Пакланенне вешчуноў" паказала, што да нешматлікіх мазкоў пэндзля самога майстра пазней дадаліся сляды працы іншага мастака.



Гэта былі вымушаныя захады, бо незавершаная і не пакрытая лакам карціна пачала разбурацца. Так ці іначай, піша *The Daily Telegraph*, даводзіцца канстатаваць, што ўнёсак самога Леанарда ў знакаміты шэдэўр даволі сціплы.

«Пакланенне вешчуноў» было замоўлена Леанарда ў 1481 годзе кляштарам Сан-Даната ў Скапета пад Фларэнцыяй як алтарная карціна. Праз год Леанарда з'ехаў у Мілан, не скончыўшы карціны. Пра ўдзел у працы над ёй іншых мастакоў раней нічога не было вядома.

Заўважым, што паўгода таму пытанне наконт рэстаўрацыі «Пакланення вешчуноў» выклікала бурныя спрэчкі – многія эксперты баяліся, што рэстаўратары могуць занадта актыўна ўмяшацца ў аўтарскую задуму Леанарда, і ў выніку рэстаўрацыю адмянілі.

## Невядомы вірус

У Грэцыі на некалькі дзён былі зачыненыя ўсе навучальныя ўстановы – ад дзіцячых садкоў да універсітэтаў, каб прадухіліць распаўсюджванне невядомага вірусу.

У аўторак былі зарэгістраваныя 13 новых выпадкаў невядомае хваробы. Агульная колькасць заражаных у краіне складае 32 чалавекі. «Нягледзячы на тое, што сярод хворых больш дарослых, чым дзяцей, гэтыя захады былі прынятыя, каб абмежаваць распаўсюджванне хваробы», – гаворыцца ў заяве.

Лякарні краіны знаходзяцца ў стане павышанай гатоўнасці. Па сваіх сімптомах новая хвароба падобная да грыпу, але выклікае паражэнне сэрца. Мяркуюць, што яна стала прычынай смерці двух чалавек з выспы Крыт і аднаго жыхара з поўначы краіны.

# Да цягніка шчасця

*Для пераважнай большасці людзей «здаровы лад жыцця» – гэта нешта з шэрагу няздзейсненага, звязанага з празмернымі фізічнымі і псіхічнымі цяжкасцямі. А вось падцягнутыя, рухавыя і спартыўныя людзі, як адзін, скажуць, што быць прыгожым і здаровым зусім не азначае заўсёды адмаўляць сабе ў «слабасцях», высільвацца на спортпляцоўцы ды хрумстаць адно моркву. Здаровы і творчы чалавек, не лайдак, як паказвае жыццё, нават не рэагуе на большасць так званых «слабасцяў»: добрая трэніроўка забяспечвае ні з чым не зраўнанае пачуццё бадзёрасці, а ежа прыносіць нашмат больш задавальнення, бо ўспрымаецца як крыніца станочай энергетыкі. I гэта, трэба пагадзіцца, значна лепш за цягамотныя паломніцтвы да дактароў і глытанне лекаў.*



Усё, што трэба для пачатку – гэта адкінуць сумненні, рацыяналізаваць свой тыднёвы распарадак і падабраць належны тып заняткаў. Самыя распаўсюджаныя – заняткі для агульнага паляпшэння фізічнага стану і прафілактыкі захворванняў; да спецыфічных можна аднесці праграмы для цяжарных, лячэнне той ці іншай хваробы, фармаванне фігуры альбо здольнасцей. Пасля гэтага ўжо можна вырашыць: ісці на *фітнэс*, на *шэйпінг* альбо на піва з воблай (для ведама: фітнэс прызначаны для комплекснага паляпшэння агульнага стану арганізму, шэйпінг – на карэктаванне асобных частак цела, а піва з воблай дапамагае нарасціць добры «мазоль» на пузе).

Дзякуй Богу, пайсці ў Мінску ёсць куды – калі пашукаць у інтэрнэце, хаця б на *www.open.by*, адразу можна знайсці некалькі дзесяткаў даволі буйных спартовых клубаў, фізкультурна-аздараўленчых комплексаў, фітнэс-цэнтраў, не лічачы мясцовых «трэнажорак» ды школьных заляў і стадыёнаў. Таксама вельмі папулярнай ва ўсім свеце з'яўляецца арганізацыя фізкультурных і спартовых клубаў на прадпрыемствах і пры арганізацыях, што сведчыць пра заклапочанасць кіраўніцтва станам здароўя сваіх супрацоўнікаў ды, вядома, павялічвае іх працаздольнасць. У нас, напрыклад, вельмі папулярныя «гарызонтаўскі» і «журавінкаўскі» спарткомплексы, апошні яшчэ і вельмі дарагі. Вялікія адрозненні і ў абсталяванні. На «Гарызонце» ёсць дзве залі (адна звычайная – з айчыннымі масіўнымі трэнажорамі, другая больш сучасная) і невялічкі басейн, які аплачваецца асобна. Каштуе гэтая «радасць для мускулаў» на самым танным студэнцкім тарыфе ў горшай залі да 15 гадзінаў дня – 1 800 руб. за адзін 1,5-гадзінны занятак, па самым дарагім – 3 600 руб. у новай залі ў любы час. Як і ва ўсіх мінскіх залях, прадугледжваецца абанементная зніжка – каля 30%, а працаўнікі прадпрыемства могуць атрымаць ільготны тарыф праз прафкам. Персанал «журавінкаўскага» спарткомплексу сцвярджае, што ў іх самае лепшае абсталяванне ў Мінску, заняткі на якім каштуюць каля 80 тыс. руб. штомесяц, альбо 1 занятак – 12 тыс. руб. (зніжка 15%, калі займацца да 16 гадзінаў дня). Але працягласць трэніроўкі – 2 гадзіны, разам з саўнай і джакузі (нават ручнік выдаюць), а сама заля проста «нашпігаваная» рознымі прыстасаваннямі. Вось, напрыклад, так званы «кардыётэатр», што кантралюе ў час занятку стан вашага арганізму ад пульсу да ціску, вызначае аптымальныя нагрузкі і адначасова дазваляе глядзець тэлебачанне альбо слухаць музыку. Таксама ў залі працуе трэнер-кансультант, які, дарэчы, ёсць амаль пры кожнай больш-менш рэспектабельнай залі нашага гораду.

Безумоўна, пры выбары месца заняткаў трэба ўлічваць статус таго ці іншага клубу, ад якога залежыць кантынгент наведнікаў і, нярэдка, – аплата. Напрыклад, зусім розныя людзі будуць займацца ў фітнэс-клубе бізнес-цэнтру «XXI век», у спарткомплексе «Алімпійскі» ці ў фітнэс-цэнтры «Эдэм», дзе месяц заняткаў каштуе да 100 тыс. руб., і ў звычайным мясцовым клубе, дзе месячная сума будзе не большая за 20-25 тыс. руб. Трэба ўлічваць яшчэ тое, што ў любым клубе трэніроўка пасля 17 гадзінаў каштуе на 20-30% даражэй – гэта абумоўлена загружанасцю заляў у пасляпрацоўны час (калі верыць словам прадстаўнікоў адміністрацыі некаторых клубаў). Таксама існуе шмат зніжак для студэнтаў і школьнікаў, а вось разавыя трэніроўкі аплачваць нявыгадна: самае таннае, што атрымалася знайсці – 1 140 руб. за адзін занятак (былі кошты і па 16–20 у.а. за гадзіну, зразумела – гэта невялічкая заля з парай трэнажораў і саўна на 4–6 чалавек).

Часцей за ўсе не фінансавы дабрабыт служыць умовай заняткаў фізкультурай, а наадварот – вынікі заняткаў дапамагаюць дасягнуць вышэйшага сацыяльнага становішча. Прырода ж не разбірае багатых ці бедных: праз нездаровы лад жыцця пакутавалі і паміралі самыя вядомыя людзі ў гісторыі. Напрыклад, Аляксандр Македонскі, які ў апошнія гады свайго жыцця палюбіў «ударыць па вінчыку», так аслабіў свой імунітэт, што ў 33-гадовым веку падхапіў звычайную для Вавілону малярыю і праз 8 дзён памёр. А вось Іван Жахлівы, які пражыў 53 гады, ужо за некалькі год да смерці быў падобны да лядашчага старога і меў цэлы букет хваробаў, прычынай якіх былі беспярапынныя папойкі і оргіі.

І, урэшце, калі для некага больш-менш сур'ёзна заняцца сваім уласным здароўем – неверагодны подзвіг, можна хаця б паспрабаваць скарыстаць асноўныя парады па прафілактыцы большасці хваробаў і агульным павышэнні жыццёвага тонусу, якія выпрацаваны медыкамі ды простым людзям на працягу стагоддзяў. Усе лекары раяць выпіваць пару літраў чыстай вады на працягу дня (не залпам, а маленькімі глыткамі), што спрые больш стабільнаму функцыянаванню сістэмаў арганізму. Важная рэч – шпацыр бадзёрай хадой пасля вячэры. Пра дрэннае ўздзеянне празмернага ўжывання солі і цукру ведаюць, здаецца, усе. Такім чынам, здароўе і прыгажосць залежаць толькі ад ўласнага жадання і любові да жыцця. Не трэба забывацца і на тое, што час ставіць свае адзнакі і планкі, і выслоўе «Скажы, што ты ясі, і я скажу, хто ты» можна сёння перафразаваць так: «Скажы мне, які твой рэкорд на велатрэнажоры, і я буду ведаць тваё сацыяльнае становішча».

**Андрэй КАРПОВІЧ**

**ТРАНСПАРТ**



Малайзія. Запушчаны ў пробную эксплуатацыю манарэйкавы гарадскі транспарт. Праект коштам больш за 300 млн. даляраў прыпыніўся быў у 1998 годзе з прычыны фінансавага крызісу, але ўрэшце завершаны. Кароткія цягнікі, разлічаныя на 200 пасажыраў, развіваюць хуткасць 90 км/г. Куала-Лумпур, 22 красавіка

## Таблетка замест фітнэсу

*Запаветная мара ўсіх лайдакоў неўзабаве ажыццявіцца. Павялічваць моц і трываласць клетак цягліцаў можна з дапамогай хімічных рэчываў без аніякіх фізічных практыкаванняў.*

Ці азначае гэта, што людзі будуць павялічваць масу цягліцаў, лежачы на канапе? «Так, гэта адна з магчымасцей прымянення гэтага прэпарату, але галоўная мэта даследавання: паляпшэнне здароўя тых хворых, якім супрацьпаказаныя фізічныя практыкаванні. Гэта пацыенты з лёгачнымі, сардэчна-сасудзістымі захворваннямі, – кажа кіраўнік даследаў, доктар Р.Сандэрс Уільямс. – Адсутнасць фізічных практыкаванняў ускладняе шмат якія хранічныя захворванні», – лічыць ён.

Доследы праводзіліся лекарамі Медыцынскага цэнтру Тэхаскага універсітэту ў Даласе. Была выгадавана група мышэй, клеткі якіх утваралі больш, чым звычайна, кальмадулін-залежнай пратэінкіназы. Гэты фермент разам з бялком кальцынеўрынам запускае ў клетцы цягліцы працэсы, аналагічныя тым, якія адбываюцца пасля інтэнсіўнай фізічнай нагрузкі – адбываецца павелічэнне колькасці мітахондрыяў.

Уільямс кажа, што ў так званых «марудных» цягліцных валокнах, адказных за працяглую фізічную дзейнасць, мітахондрыяў у мышэй стала значна больш. У той жа час у «хуткіх» валокнах, адказных за кароткачасовыя намаганні, колькасць мітахондрыяў павялічылася ў меншай ступені.

Доктар Кешаў Сінгх з Медыцынскай школы Універсітэту Джона Хопкінса гэтак ацаніў распрацоўку свайго калегі: «Гэта істотнае дасягненне ў разуменні механізму павелічэння колькасці мітахондрыяў у цягліцных клетках. З узростам колькасць мітахондрыяў у клетках змяншаецца. Абапіраючыся на гэтыя доследы, мы, магчыма, зможам распрацаваць метады паляпшэння працы цягліцаў у старасці».

## Чарнаплодка засцерагае ад склерозу

Амерыканскія навукоўцы даведаліся яшчэ пра адну акалічнасць, дзякуючы якой чарнаплодная рабіна добра ўплывае на сардэчна-сасудзістую сістэму.

Даўно вядома, што гэтыя ягады паніжаюць крывяны ціск і таму выкарыстоўваюцца як дапаможны сродак пры лячэнні гіпертаніі.

А зараз супрацоўнікі медыцынскага факультэту Індыянскага універсітэту выявілі, што чарнаплодная рабіна ўтрымлівае вялікую колькасць рэчываў, якія нейтралізуюць свабодныя радыкалы, і таму цудоўна засцерагае каранарныя артэрыі ад склерозу.

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдадзена з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда» 220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1148 Нумар падпісаны ў друк 25/04/2002 (12:00) Наклад – 7.700

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014